*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 1 (636) 8 СТУДЗЕНЯ 2004 г.**

## Устаноўлены першы ў Беларусі помнік Наталлі Арсенневай






Перад самым Новым годам, 27 снежня ў прыватным музеі Анатоля Белага ў Старых Дарогах устаноўлены першы ў Беларусі помнік Наталлі Арсенневай, работы С. Крывенкі. Прынцыпова важна было ўстанавіць гэты помнік у 2003 годзе -- 100-ым годзе вялікай беларускай паэтэсы.

Плануецца, што да ўрачыстага адкрыцця помніка, якое можа адбыцца 25 сакавіка, пад партрэтам Н. Арсенневай з'явіцца пліта з тэкстам духоўнага гімна беларусаў "Магутны Божа", дванаццаць радкоў якога абяссмерцілі імя паэтэсы.

*Я. Грынкевіч.*

## 2004 год - 210-я ўгодкі паўстання Тадэвуша Касцюшкі



Вясной 1794 года на тэрыторыі Рэчы Паспалітай двух народаў, падзеленай паміж трымя драпежнымі імперыямі, выбухнула вызвольнае паўстанне, якое ўзначаліў генерал Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатаў, ураджэнец фальварка Мерачоўшчына (каля мяст. Косава) Слонімскага павету, Наваградскага ваяводства, нацыянальны герой ЗША, Францыі і Польшчы **Андрэй Тадэвуш Бенавентура Касцюшка.**

"Наша слова" пачынае публікацыю матэрыялаў, прысвечаных Тадэвушу Касцюшку і паўстанню 1794 года. З гэтага нумара мы пачынаем друк п'есы Алеся Петрашкевіча "Развітанне з Радзімай" (ст. 11), а таксама падымаем праблему аднаго з помнікаў Т. Касцюшку (ст. 4).

## *Наперадзе год плённай працы!*

Паважаныя сябры і прыхільнікі роднага слова!

Кіраўніцтва ТБМ і сакратарыят вельмі ўдзячныя Вам за навагоднія і калядныя віншаванні, што прыйшлі і прыходзяць у нашу сядзібу з усіх куткоў Беларусі, а таксама з розных блізкіх і далёкіх краінаў свету. Шчырае дзякуй і за розныя падарункі: кнігі, паштоўкі, цукеркі і нават марынаваныя грыбы розных гатункаў.

Я таксама вельмі ўдзячны нашым ахвярадаўцам, а таксама усім кіраўнікам суполак, якія да канца года даслалі нам складкі і неабходную інфармацыю пра сваё арганізацыі. Дзякуючы Вам, дарагія сябры, першы раз мы не толькі не маем напрыканцы году даўгоў, але і спакойна можам сустрэць першы месяц 2004 года.

Я вельмі ўдзячны і рэдактарам нашых газет Алене Анісім і Станіславу Судніку, якія здолелі выдаваць газеты ў надзвычай складаных умовах, асабліва ў пачатку і сярэдзіне мінулага года, а напрыканцы здолелі павялічыць перыядычнасць, аб'ём і наклад сваіх выданняў.

Варта ўспомніць добрым словам беларускую рэдакцыю "Голаса Свабоды", журналістаў "Народнай волі", "Рэгіянальнай газеты", "Звязды", "Голаса Радзімы", БДГ, "Комсомольской правды на Беларуси", БелаПАНа, іншых выданняў, якія на сваіх старонках давалі падрабязную інфармацыю аб дзейнасці ТБМ.

Дзякуючы нашым агульным намаганням, у народзе пачынае прачынацца нацыянальная самасвядомасць, павага і любоў да роднага беларускага слова. Наша задача - замацаваць і пашырыць плынь новага беларускага адраджэння, вярнуць беларускую мову на вуліцы і плошчы нашых гарадоў, у крамы і фірмы, у дзяржаўныя ўстановы, войска, прамысловасць, транспарт і сувязь.

І гэта зрабіць можна толькі разам, толькі маючы ў сэрцы дабрыню, а на твары - ветлівую ўсмешку.

Хай 2004 год будзе годам нашага вяртання да сваіх вытокаў, да роднай і любай Беларусі.

*Старшыня ТБМ*
*Алег Трусаў.*

## 135 гадоў з дня народзінаў Ядвігіна Ш.



***4 студзеня споўнілася 135 гадоў з дня нараджэння Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.), беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай прозы, сакратара, загадчыка літаратурнага аддзела газеты "Наша Ніва".***

*(Нататкі У. Содаля пра Ядвігіна Ш. чытайце на ст. 2, а таксама ў наступных нумарах.)*

Да 135-ай гадавіны з дня народзінаў Ядвігіна Ш.

# Зацемкі Ўладзіміра Содаля пра Ядвігіна Ш.

## Праз добры лад

**Антон Лявіцкі – Ядвігін Ш.** – прыйшоў у нашу літаратуру з сваім непасрэдным самабытным мастацкім словам. Мастацкасць ягоная ў жывых народных інтанацыях, у жывым сінтаксісе. От такое ўражанне, нібы Ядвігін Ш. меў дыктафон і запісваў жывую гутарку. А пасля сядаўся і пераносіў яе на паперу – такая яна ў яго кvяцістая, плыткая, з водарам нашага менталітэту. Але мы ведаем: ніякага дыктафона ў гаспадара Карпілаўкі не было. Было толькі чуццё слова, мовы, яе самабытнасці, як музычнасці, мелодыкі. І яшчэ – добрая памяць. Яна і дазволіла мастаку стварыць яскравыя шматфарбныя замалёўкі, часта гумарыстычныя.

Талент Ядвігіна Ш. ацанілі яшчэ ягоныя сучаснікі. Але першую спробу прааналізаваць мову твораў Ядвігіна Ш. зрабіў знаны наш мовазнаўца Хведар Янкоўскі. І на гэта была ў яго зручная нагода У 1976 годзе рупнасцю Івана Чыгрына ўпершыню быў выдадзены найбольш поўны зборнік выбраных твораў Ядвігіна Ш. Шмат хто тады ўпершыню адкрываў самабытнага беларускага пісьменніка. Уражаны мовай Ядвігіна Ш. быў і чуйны на слова згаданы мовазнаўца. Ён адгукнуўся на выхад новага выбранага зборніка твораў Ядвігіна Ш. нататкай "Дарагая сустрэча", у якой засяродзіў увагу чытачоў на асаблівасцях мовы слыннага празаіка, прынамсі, на словы, якія не пасмакавалі, не абсмакавалі нашы лексікографы.

Сярод іх такія, як:

***Праз лад. Праз лад рупны. Праз лад гутарлівы, праз лад вясёлы. Праз лад*** – *гэта празмерны ў чым-небудзь.*

***Распаношыцца*** - *рассесціся, раскапусціцца.* ... "Лазовыя кусты... з даўніх часоў распаношыліся, разрасліся па недагледжанай сенажаці".

***Пабразгачы*** - *чырвонцы, золата.* "Трубкі палатна ў куфрах, у каторых былі закручаны, як хадзілі чуткі, бліскучыя пабразгачы".

***Дарэчны*** - *прыстойны, вартасны.* "Відаць, хлопец дарэчны і не зломак. ... Такому прыблудзе толлькі гарадскія сметнікі прыбіраць, а не з дарэчнымі дзяўчатамі гуляць".

***Дакучыць*** - *дакучаць.* "Вясёласці і гульняў хапала – дакучыла, кінуў. ... Мне дакучала". Параўн.: "Змоўкніце, дзеці. Дакучаеце чалавеку. Ідзіце на вуліцу, пабегайце. Сціхніце, няма чаго дакучаць тут".

***Ужываны*** - які *"быў ва ўжыванні"*. "Плуг купілі ўжываны". Параўн.: "Нашто новенькі нож бярэш? Згубіш – шкада будзе. Вазьмі той, ужываны".

***Складны*** – *кемлівы і ўмелы* (ва ўсім). "Прыгожая і вельмі складная да гульняў. Рупны і да работы, відаць, складзен. Праўн.: "Зоська ў іх да ўсяго складная" (Іля, Вілейскага раёна).

Звярнуў увагу чытачоў Фёдар Міхайлавіч і на шматлікія фразеалагізмы Ядвігіна Ш., рассыпаныя ў ягоных творах. Прынамсі: *"лезці ў хамут, козамі сена травіць, налажыць кругу, рэй вадзіць, у адну раллю (тое, што адн авор), пальцамі вытыкаць, сэрца крывавіць, паралюш (яго) ведае, кознерам трымацца, перуном ляцець..."*

А от колькі прыкладаў, як Ядвігін Ш. перадае тую ці іншую прыметнікавую прыналежнасць асобе: ***Васілёвага запасу***, а не *запасу Васіля*. ***Братава кроў***, а не *кроў брата*. ***Прузыніны браты***, ***браты Васі-лёвы***, ***Алёшаў бацька,*** а не *бацька Алёшы* і інш.

***Пры рабоце*** (параўн. з рускім: "за работай"), "... пры рабоце час ляціць".

***Перамянілася на лепшае, пайшло на лепшае".***

Чытаць Ядвігіна Ш., асабліва чалавеку з моўным густам, адна асалода. От як такое не пасмакаваць: ***адвітанне, добра ручыла, злыбіна, ціхота, дзівота, збіраніна, падпілы, кумпан, шэрсць нашупырці, перакульваць дні, аднаго дня, адной начы, удваёх, удваёчку, пад той час, рада ў раду, пуду даць, шальмоўства, крапчэй за пана паказвае, агнём справіўся (хутка), з давён-даўна, векі вечныя, веку дажываю, векі шанаваць меў, прыкуцнуць, прыпадаць на каленцы, вырасла на сталую дзеўку, сыць іх не брала, скаціна дуроная, жыць дастатна, брахуха, падпала злосць, пахавункі, спірацца, лгарства, пяты міргаюць, куры-сядухі, не на маё выйшла (не па-мойму), несузмерна малое жыццё, макушы хвояў, шумяць вялікасна, як па кані, так па кані; яды, як на Дзяды, як бач, як віш...***

Часта Ядвігін Ш. карыстаецца словамі ***тыкеля***: *"пакажыце тыкеля, тыкеля правую нагу"*; прыназоўнікам ***"а"***: *"не рад, відаць, быў пан аканом а гэткай пары вылазіць з цёплай пасцелі"* (с.26); *"але, ці то гарнчок гэты такі цвёрды быў, ці то думкі неспакойныя а цэласць скарбу дакучалі"* (с.75), *"любіў наварыць кашы а затаўкі не жалеў"* (с.110). А якое смакаўное слова ***"затуманіць"*** (закурыць)! "Дастаў я люльку, махоркай добра напхаў дый затуманіў – чую палягчэла, адлегла..." Гэтае "затуманіў" Ядвігін Ш. скарыстаў у навэле "З маленькім білецікам" не адзін раз, і яно вельмі трапна перадае стан курца і той малюнак, які ідзе ад слова ***"затуманіць"***. Цікавыя і такія моўныя звароты Ядвігіна Ш.: ***"карыстаючы з пошты"***. Ёсць тут і пошта, то трэба карыстаць з яе..." (с.212).

Гэты ж зварот я напаткаў і ў лісце ягонай дачкі Ванды да Зоські Верас, які яна пісала з Карпілаўкі.

Хочацца ўслед за Ядвігіным Ш. прамаўляць цэлымі ягонымі сказамі, выслоўямі. От скажам такімі: *"Час у выгодзе хутка ляціць. Улёт угадваць жаданні. Мне незабава! Ані думаць! Мне выдае так. Хмаркі, як каточкі. Перакульваць дні..."*

Ну, але як бы сказаў сам Ядвігін Ш.: "Годзе гатовае гутаркі... Смакуйце, калі вам да смаку мая пісаніна, у жывым кантэксце!...", **"Родная мова – гэта кроў народа: пакуль жыве яна – жыве народ"**.

Вандруючы па Беларусі, ён услухоўваўся ў гаворку людзей. От прыкладам, якія думкі ён занатаваў у сваіх дарожных нататках пра асабівасці мовы тутэйшага люду на падыходзе да Бакштаў.

## Калі падслухаць з-за плоту

*Падбіраюся ўжо бліжэй Бакшт: штораз трапляюцца іншыя зусім вопраткі, чуваць і вялікую розніцу ў самой мове. Дагэтуль ад Вільні па тых вёсках і засценках, каторыя мне давялося праходзіць – амаль не ўсе каталікі, дык і мова іх, асабліва па засценках, зафарбавана крыху польскімі словамі, але толькі крыху і то найбольш тымі фанабэрыкамі, каторыя, сустрэціўшы новага чалавека, хочуць паказаць, што яны не такія, як усе; але калі гэтага самага франта падслухаеш з-за плоту, як ён з жонкай лаецца, то ўжо, будзь пэўны, не пачуеш там ніводнага польскага слова. Мова беларуская ўжываецца скрозь зусім такая, якой піша і ўжывае цяпер "Наша Ніва". Наогул шмат лепей знаюць сваю родную мову кабеты, чым мужчыны. Таксама надта добра гукаюць па-беларуску і тутэйшыя даўнейшыя жыды. Здарылася мне сустрэціць у адным месцы старую жыдоўку, каторай, за часоў яе моладасці, за нейкія-то мусі грашкі, муж так адбіў глузды, што тая, бедная, з таго часу аглухла. Дык вось. Не чуючы здаўна навамоднага калецтва ў тутэйшай мове, у памяці яе засталася толькі даўнейшая – чыстая беларуская. Ну і праўда: аж міла было слухаць: гутарка яе, як вада плыве, словы зычныя, і мяккія, і плывучыя, і спеўныя. З вялікай ахвотай доўгі час я з гэтай жыдоўкай прасядзеў і слухаў... Чуць не забыўся я сказаць аб адным слове, якое я тут скрозь чуў. Тут не скажуць нідзе, пачынаючы, бадай, ад самой Вільні:* ***адна вярста, дзве вярсты***, *а –* ***адзін вёрст, два, тры вёрст*** *і г. д. Вось усёй розніцы і было дагэтуль, але каля Бакшт пачуў я зусім неспадзяваную навіну. Тут захавалася яшчэ старадаўняя беларуская форма ў вымове некаторых слоў, не скажуць –* ***валы, гады, сталы***, *але –* ***валэ, гадэ, сталэ***; *захаваліся тут і беларусія вопраткі: кабеты іншыя носяць яшчэ каптуры з навушкікамі, а наверх завязваюць хустку, спераду гладка прыстае яна да валос, а ззаду – каля патыліцы – тырчаць два ў розныя бакі моцна накрухмаленыя рагі. Спадніцы самадзялковыя...*

*Але вось відаць ужо і Бакшты.*

***Сяляне*** *тутэйшыя ўсе праваслаўныя, і мова іх страшэнна пакалечана расейскім словамі, а яшчэ дзіўней, што побач гэтых расейскіх слоў трапляюцца і зусім польскія, якіх мне не здарылася чуць нават паміж беларусаў-католікоў. Так, напрыклад, замест* ***пятніца*** *кажуць –* ***пёнтэк***, *замест* ***вялікі – велькі***. *Мужчына, сустрэціўшы, іначай не адазвецца, як* ***здраства***; *затое кабеты і дзеці* ***"пахвалёнага"*** *ўжываюць. Таксама паміж дзяцей і кабет і сама мова зусім іншая: ані крыху не чуваць у ёй расейшчыны, дык скуль узялася і бярэцца яна паміж мужчын? Чы і тут не тая самая прычына, як і паміж беларусаў-каталікоў: хочуць людзі праз сваю цемнату паказацца не тым, чым яны ёсць, і зусім калечаць сваю родную мову. Дык што ж ты з імі зробіш? Без дурняў, кажуць, свет не можа абысціся... Але жаль, вялікі жаль я маю да тых, што як тыя курчаты, вылупіўшыся пад саламянай страхой, за апошнія бацькоўскія крывавыя грошы прыждалі надзець модныя куртатыя з бліскучымі гузікамі курткі дый цяпер чураюцца сваёй роднай мовы! Але калі ўжо дагэтуль мова беларуская захавалася і жыве, то і жыць будзе; а мова – гэта душа нацыянальная народа, калі ёсць такая душа, то ёсць і гаспадар яе – гэта сам народ, а як не гіне народ з нацыянальнай душой, так не загіне беларускі народ!*

*Дык не чурацца, не заракацца трэба гэтага народа, а ісці на сустрэчу яго жаданням, яго думкам. Хай кожны, каму дораг свой родны край, загляне хоць у бліжэйшыя вёскі, загляне пад надгніўшыя стрэхі хатак, хай дзеліцца сваімі думкамі, радамі, вестачкамі, а пэўне сустрэне там прыхільнасць... Хай кожны святлейшы чалавек ідзе паміж гэтага народа і запальвае паміж яго светач навукі, свядомасці, справядлівасці і гэткім парадкам сплачвае хоць частку таго доўгу, які ён зацягнуў перад роднай сваёй старонкай, каторая ўскалыхала і ўзгадавала яго!??*

***Ядвігін Ш.***

## КАРПІЛАЎСКІ ПЕГАС

Нарадзіўся Ядвігін Ш. На Рагачоўшчыне. У маёнтку Добысня. Там жа яго і хрысцілі. Пасля ягоныя жыццёвыя шляхі разам з сям'ёй прайшлі праз графскі Пяршай, праз Марцінкевічаву Люцінку. Але ўсё гэта былі часовыя жыццёвыя прыстанішчы Лявіцкіх. Родавы іхні маёнтак быў пад Радашковічамі – у Карпілаўшы. Якраз тут карпілаўскія начлежнікі не адзін раз бачылі прывід белага каня.



***Карпілаўскі далягляд з выхадам на Ластаўнік, дзе з'яўлялася здань белага пегаса. Фота Анатоля Каляды.***

Старэйшая жыхарка Карпілаўкі Надзея Левандоўская – ёй зараз за восемдзесят – распавядае...

...Калісь, у яе маладыя гады паблізу фальварка Лявіцкага быў выган. Сюды карцілаўцы вадзілі коней на начлег. І от, як толькі наставала ноч, адкуль ні вазьміся, з цемры вылятаў белы конь. Выляціць на выган, траву грызе і ржэ, ржэ, ды так трывожна...

А досвіткам, як гікне, як падскочыць, белай крылы аднекуль выпусціць ды ў неба, а там хмаркай становіцца. Тая мясцінка, дзе гуляла здань белага каня, у Карцілаўцы Ластаўнікам завецца. Гэты Ластаўнік якраз недалёка ад фальварка Лявіцкага.

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Патрабуецца мастацка-гістарычная экспертыза













На здымках, перададзеных у рэдакцыю "Нашага слова", скульптурная выява кіраўніка вызвольнага паўстання 1794 года ў Польшчы і Беларусі Андрэя Тадэвуша Бенавентуры Касцюшкі, якая знаходзіцца ў прыватнай калекцыі Уладзіміра Леванцэвіча ў Лідзе.

Вышыня скульптуры 71 см. Выканана яна з памяднёнага шпіятру. (Шпіятр - поліметалічны сплаў.)

Гэтая скульптура вывезена з Беларусі (магчыма з тэрыторыі Польшчы) пасля задушэння паўстання 1831 года (магчыма 1863 года) расейскім генералам князем Барацінскім. Знойдзена ў адным з былых маёнткаў Барацінскіх і вернута ў Беларусь.

Рэдакцыя не бярэцца рабіць нейкія ацэнкі мастацкіх вартасцяў скульптуры. Мы толькі публікуем яе выяву ў розных ракурсах для таго, каб атрымаць кваліфікаваны водгук касцюшказнаўцаў, і мастацтвазнаўцаў наогул, наконт таго, што ўяўляе сабой гэ-тая скульптура. На сёння Тадэвушу Касцюшку па-стаўлена шмат помнікаў: у Кракаве, Лодзі (Польшча), Вашынгтоне, Чыкага, Мілуокі, Клііўлендзе (ЗША), Салюры (Швейцарыя). Магчыма, знойдзеная скульптура з'яўляецца паменшанай копіяй аднаго з гэтых помнікаў. Магчыма, гэта макет новага помніка, і ёсць магчымасць назваць імя аўтара. Магчыма, гэта чыста музейная выява.

Мы просім усіх, хто можа нешта сказаць з гэтай нагоды, дасылаць свае меркаванні і высновы ў рэдакцыю "Нашага слова".

*Яраслаў Грынкевіч.*

## 275 гадоў Іяхіму Храптовічу



ХРАПТОВІЧ, Літавор-Храптовіч, Іяхім Ігнацы Юзаф (4.1.1729, маёнтак Ясянец Навагрудскага пав., цяпер в. Ясянец Баранавіцкага р-на – 4.3.1812), дзяржаўны, гаспадарчы, навуковы і культурны дзеяч ВКЛ. З роду Храптовічаў. Вучыўся ў Нясвіжскім калегіюме, Віленскай акадэміі, у Брунсбергу. Напачатку служыў у войску. Стольнік наваградскі ў 1752-64; выбіраўся дэпутатам Трыбуналу ВКЛ у 1753, 1765 (яго маршалак), пасол на соймы 1754, 1756, 1758, 1764, 1766. Вялікі сакратар ВКЛ у 1764 –73, падканцлер ВКЛ у 1773-93, у 1793 прызначаны канцлерам ВКЛ (адмовіўся); чл. Пастаяннай Рады, міністр замежных спраў Рэчы Паспалітай у 1791-92; староста аршанскі, жослінскі, старадубскі. У 1769-72 наведаў Германію, Францыю, Англію, Галандыю і Аўстрыю, дзе знаёміўся з ідэямі асветніцтва, фізіякратызму, а таксама з прагрэсіўнымі метадамі вядзення сельскай гаспадаркі. Пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў Х. разам з інш. прапанаваў перадаць усю маёмасць ордэна ў Рэчы Паспалітай у фонд развіцця адукацыі. У створанай Адукацыйнай камісіі Х. быў кіраўніком дэпартамента школ ВКЛ (уваходзіў у яе склад да 1792). На Чатырохгадовым сойме 1788-92 прапанаваў праект агульнага размежавання ўладанняў у ВКЛ, падтрымаў прыняцце Канстытуцыі 3 траўня 1791. У 1793-95 лячыўся за мяжой, у апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай амаль адышоў ад дзярж. спраў. Пасля смерці бацькі у 1766 атрымаў маёнткі Шчорся ў Наваградскім пав., Зембін у Менскім пав., Пышна ў Полацкім ваяв., Халопенічы ў Аршанскім пав. і інш.; пазней набыў Бешанковічы і Пачаевічы ў Полацкім ваяв., Вішнева і Славенск у Ашмянскім пав., Грыцкавічы і Нежыцы ў Аршанскім пав.; трымаў у закладзе Нягневічы ў Нава-градскім пав. У 1770-76 у Шчорсах быў створаны вы-датны палацава-паркавы ансамбль. У палацы сабраў вял. б-ку (бібліятэка Храптовічаў). У сваіх маёнтках Х. істотна рэарганізаваў гаспадарку, якая стала адной з найлепшых у ВКЛ.






# СТРАТЭГІЯ

## дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі

**(Для практычнай дзейнаасці арганізацый і суполак ТБМ)**
**Ухвалена Радай ТБМ 26 студзеня 2003 г.**

### Уводзіны

***Стратэгія* дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі*** – гэта падрыхтаваны калектыўнымі намаганнямі ТБМ дакумент, у якім выкладзены блізкія і доўгатэрміновыя задачы захавання і развіцця беларускай мовы.

У ёй ставяцца рэальныя задачы, якія Таварыства магло б выконваць ужо цяпер або праз нейкі час.

Таварыства хацела б, каб падрыхтаваная ім з удзелам шырокай грамадскасці стратэгія стала кірункам для дзейнаасці ўсяго беларускага народа.

Стратэгія з'яўляецца дакументам Таварыства беларускай мовы. ТБМ мае намер кіравацца ім у сваёй дзейнасці на працягу 20 гадоў. У працэсе ажыццяўлення Стратэгіі пастаянна будзе весціся кантроль за яе выкананнем. Канкрэтныя задачы могуць удакладняцца ў адпаведнасці з новымі зменамі ў становішчы моў.

Праз 20 гадоў будзе праведзена агульная праверка правільнасці вызначанай мэты і задач стратэгіі, прааналізаваны вынік яе выканання.

**Сучасны стан беларускай мовы.**

Беларуская мова існуе ў дзвюх разнавіднасцях: ***літаратурная мова і народна-дыялектная мова.*** Усе людзі, якія карыстаюцца гэтымі разнавіднасцямі, з'яўляюцца носьбітамі беларускай мовы. ТБМ падкрэслівае важнасць авалодвання літара-турнай мовай як мага большай колькасцю людзей і паважліва адносіцца да народна-дыялектнай мовы.

Сучасная беларуская літаратурная мова мае дзве разнавіднасці. Адна з іх атрымала назву "тарашкевіца" (паводле прозвішча аўтара "Беларускай граматыкі для школ" Б. Тарашкевіча), другая – "наркамаўка", або "чарнушэвіца" (паводле прозвішча народнага камісара асветы З. Чарнушэвіча). Абедзве разнавіднасці беларускай літаратурнай мовы мала адрозніваюцца паміж сабой, але маюць вельмі неаднолькавае пашырэнне ў грамадстве, у той жа час захоўваецца тэндэнцыя для ўжывання абедзвюх разнавіднасцей літаратурнай мовы. Таварыства выступае за недапушчальнасць распальвання канфрантацыі паміж прыхільнікамі "тарашкевіцы" і "наркамаўкі".

Паводле перапісу 1999 года на беларускай мове штодня размаўляюць менш паловы ўсіх жыхароў Беларусі. Аднак можна меркаваць, што сукупная колькасць тых, хто выкарыстоўвае ў розны час беларускую мову, дасягае 7 – 8 мільёнаў чалавек, што складае 70 – 80 працэнтаў ад усяго насельніцтва Беларусі. Значная група беларусаў памяшчанску размаўляе на "трасянцы" з выкарыстаннем рускай лексікі і беларускай дыкцыі і сінтаксісу. ТБМ спадзяецца, што гэта група будзе карыстацца роднай мовай. Падчас таго ж перапісу 74 працэнты (амаль тры чвэрці) грамадзян Беларусі прызналі беларускую мову сваёй роднай. У гэтым мы бачым вялікі патэнцыял для яе будучага развіцця.

*Дзяржаўнасць беларускай мовы, абвешчаная Законам аб мовах ад 25 студзеня 1990 г. і замацаваная Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, на практыцы адсутнічае. Выцясненне беларускай мовы як адбывалася ў мінулыя дзесяцігоддзі, так прадаўжаецца і цяпер.*

Некаторыя галіны навукі, гаспадаркі і культуры маюць вельмі нетрывалую традыцыю выкарыстання беларускай мовы або і не маюць яе зусім (вышэйшая адукацыя, даследчыцкая дзейнасць у галіне тэхнічных навук, судаводства, сучасны бізнес, заканадаўства, буйная камерцыя, дыпламатыя, вайсковая справа, банкаўская справа і інш.). На сёння гэтыя сферы слаба прыстасаваныя да выкарыстання ў іх беларускай мовы. Тут не вядзецца справаводства па-беларуску; не існуе "базавых" беларускамоўных матэрыялаў, якія маглі б шырока ўжывацца ў гэтых сферах і г.д.

**Мэты і задачы стратэгіі.**

Асноўнай мэтай стратэгіі дейнасці ТБМ па развіцці беларускаі мовы ў XXI стагоддзі з'яўляецца распрацоўка і ажыццяўленне, як першапачатковых, так і доўгатэрміновых захадаў, накіраваных на пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай ва ўсіх сферах культурнага, сацыяльнага і эканамічнага жыцця краіны. Для дасягнення гэтай мэты неабходна абапірацца на заканадаўчыя дакументы, якія акрэсліваюць ролю беларускай мовы як дзяржаўнай мовы карэннага насельніцтва. Такі статус беларускай мовы цалкам адпавядае дадзеным Перапісу насельніцтва 1999 года. Наяўнасць адпаведных законаў Рэспублікі Беларусь, вынікі перапісу, дэклараваны палітычны курс краіны на незалежнасць даюць падставы для супольных дзеянняў грамадскіх арганізацый і дзяржавы ў кірунку развіцця і пашырэння беларускай мовы.

*Галоўнай мэтай стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі з'яўляецца стварэнне ўмоў для захавання і доўгатэрміновага развіцця беларускай мовы як штодзённай мовы беларускага народа.*

Трэба стварыць такія умовы, якія б забяспечылі магчымасці ўжываць беларускую мову натуральна ва ўсіх сферах жыцця. Дзеля гэтага неабходна выпрацаваць сістэму заахвочвання і падтрымкі для людзей, каб яны карысталіся мовай падчас працы, адпачынку або падчас атрымання паслуг. Заахвочваць трэба арганізацыі, установы, службы сервісу і транспарту, якія аказваюць свае паслугі па-беларуску. Таксама трэба забяспечыць магчымасць людзям ужываць беларускую мову і ў нефармальных сітуацыях. Інакш кажучы, павелічэнне магчымасцяў, хоць і апасродкавана, забяспечваецца развіццём структур падтрымкі.

Варта ўлічваць і тое, што толькі паступовы рух наперад у розных сферах, накіраваны перш за ўсё на пашырэнне магчымасцяў ужываць беларускую мову, а не штучнае "выцісканне" рускай мовы, можа прынесці пажаданыя перспектывы для беларускай мовы.

*Бліжэйшымі мэтамі дзейнасці ТБМ з'яўляюцца:*

а) больш выразная пастаноўка ў грамадстве праблемы захавання і развіцця беларускай мовы;

б) далучэнне да праблемы развіцця беларускай мовы значна большай колькасці людзей і арганізацый.

Дасягненне гэтых мэтаў прадугледжвае ажыццяўленне наступных задач:

**па-першае,** павелічэнне колькасці карыстальнікаў беларускай мовы;

**па-другое,** забеспячэнне магчымасцяў для выкарыстання беларускай мовы ў розных галінах гаспадаркі і навукі;

**па-трэцяе,** паляпшэнне стаўлення насельніцтва да беларускай мовы.

## Раздзел I. Як пашырыць карыстанне беларускай мовай

### АДУКАЦЫЯ

**Становішча роднай мовы ў грамадстве залежыць ад падтрымкі яе дзяржавай, органаў адукацыі, царквы розных канфесій, а таксама і грамадскіх арганізацый.**

**Суполкам ТБМ неабходна працаваць з гэтымі ўстановамі, органамі і і арганізацыямі, каб змяніць становішча беларускай мовы да лепшага. Важна забяспечыць непарыўнасць беларускамоўнага навучання: ад дзіцячага сада і да універсітэта. Дзеля гэтага трэба мабілізаваць усе нашы магчымасці, якія павінны забяспечваць непарыўнасць працэсу.**

Неабходна наладзіць падтрымку і ўзаемадзеянне паміж асноўнымі ўдзельнікамі папулярызацыі беларускай мовы (беларускімі школамі, бацькоўскімі камітэтамі і інш.), каб яны не заставаліся сам-насам са сваімі праблемамі

**Павінна быць забяспечана права дзяцей і моладзі вывучаць розныя прадметы на беларускай мове. Беларуская мова павінна пераважаць ва ўсёй сістэме адукацыі: у дашкольным выхаванні; сярэдняй адукацыі; пазашкольным выхаванні; спецыяльнай адукацыі; вышэйшай адукацыі.**

**Дашкольнае выхаванне.** *Выхаванне дзяцей на беларускай мове ў дзіцячых яслях і садах з'яўляецца найбольш важным для закладкі падмурка, які павінен стаць гарантыяй таго, што дзеці будуць свабодна валодаць беларускай мовай на працягу ўсяго жыцця. Не ўсе бацькі выбіраюць так званыя беларускія дзіцячыя сады, але калі мы хочам змяніць адносіны мовы ў грамадстве, дык мы павінны выпрацоўваць паважлівыя адносіны бацькоў да ведання іх дзецьмі беларускай мовы.*

*СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:*

❖ Заахвочваць персанал дзіцячых садоў весці выхаванне на беларускай мове. Дзеля гэтага з дапамогай бацькоўскіх камітэтаў ствараць фонды дадатковай матэрыяльнай патрымкі, уключаць персанал у сферу адукацыйных праектаў, што забяспечваюць іх прафесійны рост.

❖ Ствараць сярод бацькоў камітэты з мэтай зацікаўлення ў выхаванні сваіх дзяцей у беларускамоўным асяроддзі.

❖ Уключаць беларускамоўныя дзіцячыя сады ў сферу міжнародных адукацыйных праектаў, спрыяць наданню беларускамоўнаму дашкольнаму выхаванню статусу элітнасці.

❖ Арганізацыям ТБМ бесперапынна быць у кантакце і працаваць з дзяржаўнымі ўстановамі, адказнымі за дашкольнае выхаванне, з мэтай пашырэння сеткі беларускамоўных садоў і іх падтрымкі.

**Сярэдняя адукацыя.** *Усе без выключэння навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў павінны атрымліваць адукацыю на беларускай мове, каб пасля заканчэння іх яны маглі свабодна валодаць ёй. Дзеля гэтага павінна павышацца колькасць прадметаў, выкладанне якіх будзе весціся на беларускай мове. Павінна праводзіцца рознабаковая падтрымка настаўнікаў, якія выкладаюць па-беларуску.*

*СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:*

❖ Распрацаваць сістэму дапамогі беларускамоўным школам і схему іх супрацоўніцтва паміж сабой.

❖ Наладжваць сувязі з бацькоўскімі камітэтамі, дзе бацькі зацікаўлены ў адукацыі іх дзяцей на беларускай мове, дапамагчы наладзіць каардынацыю дзеянняў паміж рознымі бацькоўскімі камітэтамі, спрыяць стварэнню аб'яднанняў бацькоўскіх камітэтаў беларускамоўных школ і класаў.

❖ Садзейнічаць уключэнню школ з беларускай мовай навучання ў міжнародныя адукацыйныя праекты.

❖ Дамагацца ад Міністэрства адукацыі павышанага статусу сярэдніх беларускамоўных навучальных устаноў,ператварыць іх у ліцэі або гімназіі. Спрыяць станаўленню беларускамоўнай адукацыі як элітнай.

❖ Абараняць правы грамадзян, якія жадаюць даць сваім дзіцяці адукацыю па-беларуску. Дамагацца праз Канстытуцыйны суд знясця ўсіх фармальных абмежаванняў, якія дазваляюць мясцовым органам адукацыі пазбягаць выканання дзеючага заканадаўства.

**Пазашкольнае выхаванне вучняў.** *У розных пазашкольных установах стварaюцца гурткі, секцыі, клубы для дзяцей, дзе яны маюць магчымасць атрымаць дадатковыя навыкі і веды. Мы маем права дамагацца, каб яны працавалі на беларускай мове.*

*СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:*

❖ Заахвочваць выхавальнікаў і ўвесь персанал пазашкольных навучальных устаноў, клубаў, палацаў дзяцей і моладзі, спартыўных секцый ствараць групы для беларускамоўных навучэнцаў. Заахвочваць выхавальнікаў весці заняткі на беларускай мове. Дзеля гэтага спрыяць іх прафесійнаму росту.

❖ Садзейнічаць уключэнню тых устаноў, што прытрымліваюцца ў сваёй дзейнасці беларускай мовы, у міжнародныя адукацыйныя і гуманітарныя праекты.

❖ Тлумачыць бацькам перавагі атрымання пазашкольных ведаў на беларускай мове, матывуючы гэта больш гарманічным выхаваннем і далейшай прыстасаванасцю падлеткаў да шматмоўнага асяроддзя, а таксама больш хуткай адаптацыяй да вывучэння іншых моў у будучыні.

**Спецыяльная адукацыя.** *Важнейшымі галінамі спецыяльнай адукацыі з'яўляюцца адукацыйныя ўстановы, якія рыхтуюць спецыялістаў у сферы гандлю, аказання паслуг, транспарту і г.д. Гэтыя спецыялісты абавязаны ведаць беларускую мову і прафесійную лексіку.*

*СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:*

❖ Разам з зацікаўленымі спецыялістамі распрацоўваць дапаможнікі па беларускай мове для навучання прафесійнай лексіцы ў сферы аказання паслуг.

❖ Дамагацца ўвядзення ў навучальныя праграмы абавязковага курса беларускай прафесійнай лексікі.

❖ Распрацаваць слоўнікі-дапаможнікі для кіроўцаў, якія маглі б карыстацца імі, аб'яўляючы назвы прыпынкаў.

*(Праця́г на ст. 5.)*

---

** **Стратэгія (грэч. strategia)** — майстэрства кіравання грамадскай і палітычнай барацьбой.*





# СТРАТЭГІЯ

## дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі

*(Працяг. Пачатак на ст. 6.)*

**Вышэйшая адукацыя.** *Вышэйшая адукацыя забяспечвае грамадства высокаадукаванымі спецыялістамі, і вельмі важна, каб будучыя спецыялісты валодалі беларускай мовай і маглі свабодна прымяніць яе на працоўных месцах. Для гэтага павінны быць пашыраны ўжытак беларускай мовы ў межах навучальнага працэсу. Любы спецыяліст з вышэйшай адукацыяй павінен умець карыстацца як беларускай, так і рускай мовай.*

**СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

❖ Шляхам правядзення адмысловых кампаній замацаваць у грамадскай свядомасці ненатуральнасць такой з'явы, калі ў незалежнай нацыянальнай дзяржаве адсутнічае магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі на роднай мове карэннага народа краіны.

❖ У найбліжэйшы час дамагчыся адкрыцця беларускамоўных плыняў ва ўсіх ВНУ Беларусі.

❖ Незалежна ад дзяржавы стварáць магчымасці атрымання вышэйшай адукацыі пры дапамозе інфармацыйных тэхналогій.

**Інфармацыйныя тэхналогіі ў адукацыі.**

*У сувязі з тым, што сістэма вышэйшай адукацыі ў краіне амаль уся рускамоўная і што, нягледзячы на патрабаванні грамадскасці, улады краіны так і не стварылі ніводнай беларускамоўнай ВНУ, неабходна прыкладаць намаганні незалежна ад волі кіраўніцтва краіны ў наступных кірунках:*

❖ З дапамогай міжнародных адукацыйных праграм і фондаў арганізаваць сецевы партал дыстанцыйнага навучання і тым самым стварыць умовы для атрымання вышэйшай адукацыі па-беларуску з атрыманнем дыплома аднаго з еўрапейскіх ВНУ.

❖ Да стварэння партала прыцягнуць вядучых навукоўцаў і выкладчыкаў Беларусі.

❖ Для пашырэння кола студэнтаў неабходна стымуляваць стварэнне курсаў па сецевых тэхналогіях, павялічыць доступ да сеціва ў рэгіёнах Беларусі.

**Курсы беларускай мовы**

*Шмат хто з беларусаў саромеецца карыстацца беларускай мовай, бо не мае практыкі штодзённага карыстання. Дарослыя, якія жадаюць вывучаць беларускую мову, павінны атрымаць такую магчымасць. Дзеля гэтага трэба адкрываць курсы па вывучэнні беларускай мовы.*

**СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

❖ Распрацоўка падручнікаў для розных навучэнцаў.

❖ Ва ўсіх курсах прадугледжваць знаёмства навучэнцаў з гістарычна-культурнай спадчынай беларусаў.

❖ Пры арганізацыі курсаў у рэгіёнах ладзіць сустрэчы слухачоў з пісьменнікамі, мастакамі і артыстамі.

❖ Распрацаваць механізмы самафінансавання курсаў беларускай мовы ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

### Раздзел II. Забеспячэнне магчымасцяў для ўжывання мовы

**Групы насельніцтва, з якімі трэба працаваць актывістам ТБМ**

**Дзеці.** Чым раней чалавек пачынае вывучаць мову, тым лепей, бо тады гэтая мова здаецца яму натуральнай. Дзеці звычайна добра авалодваюць якой-небудзь мовай. Старанная праца з імі закладае падмурак для карыстання гэтай моваю ўсё жыццё.

**Маладыя людзі.** Моладзь з'яўляецца найбольш актыўнай і дынамічнай часткай насельніцтва, якая ў меншай ступені залежыць ад негатыўных стэрэатыпаў у стаўленні да мовы і моўнай палітыкі. Праца сярод моладзі з'яўляецца найбольш эфектыўным шляхам да змянення становішча беларускай мовы ў краіне.

**Сям'я.** Самы трывалы асяродак фунцыянавання мовы – гэта сям'я. Адначасова гэта і найбольш замкнёная сфера для грамадскага ўздзеяння. Таму змяніць моўныя звычкі ў сям'і вельмі складана.

Так, "новыя" гараджане, якія ў пасляваенныя гады вырваліся з-пад калгаснага прыгнёту і траплялі ў горад, імкнуліся, як мага хутчэй, пазбавіцца мовы, бо яна напамінала вёску, якая звязвалася з беднасцю, галечай і пакутамі. Знешнія абставіны патрабавалі перайсці на "гарадскую" мову (мову заезджага начальства) – рускую. Аднак канчатковага знікнення ў гарадскіх сем'ях беларускай мовы не адбылося. У большасці ў побыце ўжываецца "змешаная" мова – "трасянка". Трэба стварыць ўмовы для заахвочвання вяртання ў сем'і беларускай мовы.

**СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

❖ Вярнуць ва ўжытак спрадвечныя беларускія імёны, па якіх адразу вызначаецца прыналежнасць іх носьбітаў да пэўнай нацыянальнасці. Дзеля гэтага распрацаваць і выдаць слоўнік беларускіх уласных імёнаў, а таксама наладзіць выпускі каляровых іменнікаў для маладых маці і распаўсюджваць іх праз жаночыя кансультацыі і радзільныя дамы.

❖ Выдаць кнігу, цікавую па змесце для навучання бытавой лексіцы.

❖ Стымуляваць пераход на беларускую мову разнастайных сямейных клубаў, курсаў, школ маладых маці.

❖ Ствараць беларускамоўныя гурткі для развіцця эстэтычных здольнасцяў у дзяцей малодшага ўзросту.

**Прадпрымальнікі.** Прыватны бізнес ахоплівае ўсе большыя сферы нашага грамадства і важна, каб прадпрымальнікі бачылі выгоду ў выкарыстанні беларускай мовы не толькі пасіўна (надпісы, рэклама), а таксама як мовы абслугоўвання.

**Службоўцы (ураднікі, уладнікі, службовыя).** У нашым грамадтве важная роля належыць дзяржаўным органам. Як вядома на працягу апошніх стагоддзяў беларускі народ не меў нацыянальнай дзяржавы. За стагоддзі існавання беларусы былі вымушаны выпрацаваць здольнасць прыста-соўвацца да знешніх абставінаў, да прыезджых чыноўнікаў, якія не карысталіся беларускай мовай. Мусіць дзякуючы гэтаму прыстасаванству беларуская мова змагла захавацца на пабытовым узроўні. Але каб яна шырока загучала ў грамадстве, неабходна, каб на ёй гаварыла "начальства". Выкарыстанне службоўцамі беларускай мовы падштурхне жыхароў Беларусі больш шырока ўжываць яе ў грамадскім жыцці і побыце. Тады ўзрасце павага да роднага слова.

**Прадстаўнікі традыцыйных канфесій.** Рэлігійныя дзеячы традыцыйна маюць вялікі ўплыў на значную частку насельніцтва, асабліва на людзей сярэдняга і сталага веку. Калі хрысціянскія святары будуць весці набажэнствы і казаць казанні на беларускай мове, гэта павінна даць станоўчы вынік.

**Інтэлігенцыя.** У цяперашні час інтэлігенцыя (настаўнікі, урачы, інжынеры, эканамісты, культработнікі і г. д.) складае значную частку насельніцтва. Гэта адукаваныя і культурныя людзі. Шмат хто з іх добра валодае беларускай і рускай мовамі. Важна, каб усе яны часцей карысталіся роднай мовай, а тыя, хто не ведае беларускай, авалодалі ёю. Калі ўсе беларускія інтэлігенты загавораць пабеларуску, поспех нашай стратэгічнай мэты будзе дасягнуты.

**Спосабы дзеяння ТБМ у розных галінах гаспадаркі і культуры**

**1. Радыё, тэлебачанне.**

*Найбольшую занепакоенасць выклікае адсутнасць беларускамоўных электронных сродкаў масавай інфармацыі. Ад гэтага церпяць не толькі беларускамоўныя грамадзяне ў Беларусі, але і беларускія дыяспары ва ўсім свеце. (Асабліва вялікія па колькасці беларускія дыяспары ў краінах СНД.)*

**СПОСАБЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА І ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

❖ Патрабаваць рэарганізацыі дзяржаўнага тэлеканала ў грамадскае тэлебачанне, якое б забяспечвала інтарэсы ўсяго беларускага грамадства, а не толькі невялікай групы палітыкаў, якія знаходзяцца пры ўладзе.

❖ Дамагацца пераводу работы ўсіх беларускіх каналаў і рэгіянальных тэлестудый на беларускую мову вяшчання;

❖ Рэклама на расійскіх каналах, якая транслюецца для беларускіх спажыўцоў, павінна весціся толькі на беларускай мове.

❖ На Беларусі па радыё і тэлебачанні часцей прапагандаваць народныя і аўтарскія беларускія песні, музыку беларускіх кампазітараў і іншыя здабыткі нацыянальнай культуры.

Для забеспячэння магчымасці карыстаца тэлебачаннем неабходна распрацаваць канцэпцыю і заснаваць беларускамоўны спадарожнікавы канал. Пры яго стварэнні карыстацца наступнымі прынцыпамі:

а) З-за цяперашніх неспрыяльных палітычных умоў размясціць студыю па-за межамі Беларусі;

б) зрабіць даступнай тэлетрансляцыю і праз сеціва, забяспечыць кантакт з беларускамоўнымі тэлегледачамі з усяго свету;

У сувязі з тым, што на тэрыторыі Беларусі вядзецца трансляцыя вялікай колькасці тэлевізійных каналаў Расійскай Федэрацыі (ад 2 да 7 у залежнасці ад рэгіёна Беларусі), на рускай мове, якія цалкам забяспечваюць патрэбы рускамоўнага насельніцтва краіны, неабходна дамагацца ад міністэрства інфармацыі таго, каб БТ, АНТ, СТБ працавалі на беларускай мове:

**2. Грамадскі транспарт.**

*Кожны дзень гарадскія і сельскія жыхары карыстаюцца грамадскім транспартам (аўтобусамі, трамваямі, тралейбучамі, метро, электрацягнікамі). У многіх гарадах транспартнікі карыстаюцца рускай мовай як мовай афіцыйнай і тым самым ігнаруюць родную мову тутэйшых людзей.*

**СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

ТБМ мае законнае права патрабаваць, каб расклад руху транспатрных сродкаў (аўтобусаў і прыгарадных цягнікоў) быў напісаны ўсюды па-беларуску. Аб'явы аб адпраўленні аўтобусаў на аўтавакзалах і прыгарадных чыгуначных станцыях павінны аб'яўляцца па-беларуску і пры неабходнасці па-руску. І каб гэта стала правілам патрабуецца актыўная дзейнаасць мясцовых суполак ТБМ і іншых грамадскіх беларускіх арганізацый.

**3. Гандаль і бытавое абслугоўванне.**

*Кожны дзень нашы грамадзяне ідуць у краму або майстэрню ці дом побыту. Беларусы будуць адчуваць сябе болей утульна, калі крамы і майстэрні бытавога абслугоўвання будуць працаваць на іх роднай мове, на беларускай.*

**СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

❖ Весці работу з кіраўнікамі гандлю і абслугоўчых арганізацый, каб візуальнае афармленне рынкаў, крам, дамоў побыту, надпісаў, цэннікаў, упаковак тавараў і этыкетак рабілася па-беларуску.

❖ Працаваць з вытворцамі нататнікаў да тавараў, заахвочваючы іх выкарыстоўваць беларускую мову на натаніках. Трэба матываваць гэта тым, што павялічыцца колькасць спажыўцоў гэтага тавару.

❖ Найбольш перспектыўным для стварэння магчымасцяў штодзённага карыстання беларускай мовай у нефармальных зносінах мусяць стаць спеўныя кавярні. Стварэнне такіх кавярняў зможа значна палегчыць зносіны паміж людзьмі і паспрыяе адраджэнню беларускай песні, а таксама будзе спрыяць яе папулярызацыі. Для больш зручнага распаўсюджвання варта стварыць у сеціве адмысловы спеўны сайт і на бясплатнай аснове распаўсюджваць музычныя творы.

❖ Неабходна стымуляваць прадпрымальнікаў на стварэнне беларускамоўных кавярняў і клубаў па інтарэсах, на аснове якіх маглі б фармавацца ўстойлівыя беларускамоўныя асяродкі;

❖ Стварыць фірму "Беларускі сват" ("Беларускі маршалак"), што аб'ядна́ла б людзей, якія добра ўмеюць весці рэй на вяселлях або іншых падобных урачыстасцях.

**4. Установы культуры** *(музеі, бібліятэкі, клубы, Дамы культуры, музычныя навучальныя установы, цыркі, філарміні,тэатры і кінатэатры) павінны працаваць на роднай мове. Менавіта гэтыя ўстановы з'яўляюцца паказчыкам стану нацыянальнай культуры беларускага народа. Ва ўстановах культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь не могуць працаваць творчыя работнікі і абслугоўваючы персанал без ведання беларускай мовы.*

**СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:**

❖ Імкнуцца ва ўсіх гэтых установах стварыць суполкі сваёй арганізацыі і праз іх уплываць на дзейнаасць адміністрацыі устноў культуры.

❖ Стымуляваць і дапамагаць ініцыятывам, накіраваным на пераклад здабыткаў сусветнай кінематаграфіі на беларускую мову.

❖ Аказваць усялякую падтрымку беларускім тэатрам, пашыраць беларускі рэпертуар.



# СТРАТЭГІЯ

## дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі

**5. Дзяржаўныя творчыя калектывы, калектывы мастацкай самадзейнасці і творчыя саюзы.**

*Рада ТБМ мае намер выкарыстоўваць гэтыя калектывы і саюзы як сваіх памочнікаў, як апору ў прапагандзе роднага слова. Менавіта яны з'яўляюцца актыўнымі прапагандыстамі беларускай мовы і беларускай нацыянальнай культуры.*

*На дзяржаўныя творчыя калектывы павінна распаўсюджвацца агульны дзяржаўны падыход — без ведання беларускай мовы ў нацыянальных творчых калектывах працаваць нельга.*

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Прыцягнуць усе згаданыя арганізацыі да актыўнай работы ў ТБМ.

❖ Паставіць сваёй мэтай дамагацца таго, каб кожны артыст, удзельнік мастацкай самадзейнасці, пісьменнік, мастак, кампазітар, кінематаграфіст і г. д. стаў сябрам ТБМ.

❖ Прапагандаваць здабыткі нацыянальнай культуры.

❖ Спрыяць выпуску касет і відэакасет з запісамі нацыянальнай музыкі, у першую чаргу народных і аўтарскіх песень.

**6. Органы заканадаўчай улады, распарадчыя і выканаўчыя** *павінны дзейнічаць у адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларусь і паказваць прыклад у бездакорным выкананні патрабаванняў Закону аб мовах. Менавіта ўладнікі згаданых органаў павінны дзейнічаць так, каб беларуская мова заняла ў зносінах з грамадзянамі пераважнае месца. Неабходна дамагацца ад мясцовых выканаўчых органаў, каб надпісы назваў вуліц, вёсак і іншых населеных пунктаў на дарогах рабіліся толькі па-беларуску.*

Сучасныя законы дазваляюць пазбягаць выкарыстання беларускай мовы, але ёсць і спосабы грамадскага ўздзеяння. Варта ведаць, што ігнараванне беларускай мовы ў дзяржаўных установах з'яўляецца стварэннем перашкод і абмежаванняў у карыстанні дзяржаўнай мовай (арт. $172^2$ Адміністратыўнага кодэкса).

Мэтанакіраваная і паслядоўная грамадская дзейнасць заўсёды прымушае улады схіліцца да выканання патрабаванняў грамадскасці.

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Распрацаваць метадычны дапаможнік з парадамі юрыстаў, як адстойваць свае моўныя правы.

❖ Рэгулярна ладзіць ва ўсіх рэгіёнах краіны семінары, заняткі кіраўнікоў грамадскіх арганізацый, канферэнцыі з мэтай азнаямлення з правамі грамадзян па забеспячэнні функцыянавання беларускай мовы.

❖ Матываваць выкарыстанне беларускай мовы ў органах дзяржаўнага рэгулявання (падатковых інспекцыях, службах кантролю, дзяржаўным апараце);

❖ Прынцыпова не пакідаць ніводнага факта ігнаравання беларускай мовы ў дзяржаўных органаў (татальнае рэагаванне).

❖ Калі на улады не ўздзейнічаюць ніякія разумныя аргументы, варта пераходзіць да грамадскіх акцыяў: збор подпісаў пад патрабаваннем, наладжванне пікетаў, мітынгаў.

**7. Грамадскі сектар.** *З моманту ад ўзнаўлення беларускай дзяржаўнасці ў 1991 годзе распачалося стварэнне грамадскіх арганізацый і адначасова супрацьдзеянне ім з боку дзяржаўнага апарату. Таму ўзнікла неабходнасць сумеснай працы і каардынацыі дзеянняў недзяржаўнага сектару. Як форма супрацоўніцтва ўзнікла Асамблея няўрадавых арганізацый Беларусі. Трэба адзначыць, што рабочай мовай пасяджэнняў асамблеі стала беларуская. Большасць кіраўнікоў Асамблеі ў стасунках паміж сабой выбіраюць беларускую мову, але рабочай мовай іх супрацоўнікі і валанцёраў няўрадавых арганізацый, а таксама і мовай перапіскі застаецца, як правіла, руская.*

**У выніку аднаўлення незалежнасці Беларусі ў грамадстве за апошнія 10 гадоў значна павысіўся статус беларускай мовы. Для значнай часткі рускамоўных грамадзян беларуская мова з'яўляецца прыкметай незалежнасці Беларусі і імкненнем да будаўніцтва свабоднай і дэмакратычнай грамадзянскай супольнасці. Кіраўнікі грамадскіх арганізацый, рабочай мовай якіх з'яўляецца беларуская, з рускамоўнымі кліентамі ў сваёй дзейнасці павінны заахвочваць тых, хто спрабуе выкладаць свае думкі па-беларуску, лаяльна ставіцца да выпадковых памылак. Не варта думаць, што пераход на зручную для кліента мову чымсьці палегчыць працу. Лепш будзе, калі прапанаваць кліенту гаварыць па-руску, але саму паслугу аказваць па-беларуску. Варта ведаць, што прытрымліванне гэтай моўнай схемы ўпэўнівае кліента ў прынцыповасці пазіцыі грамадскай арганізацыі не толькі ў пытаннях мовы, але і ў цвёрдасці пазіцыі арганізацыі ў пытаннях, па якіх непасрэдна звяртаецца грамадзянін. І наадварот: "флюгерная" пазіцыя выклікае насцярогу ў большасці грамадзян Беларусі). Аднак *самай памылковай тактыкай* з'яўляецца "агрэсіўная беларускамоўнасць", калі рускамоўны наведвальнік падвяргаецца прапагандысцкаму ўздзеянню і настойлівым патрабаванням карыстацца беларускай мовай. Толькі ўважлівая і эфектыўная праца і высокі ўзровень аказання грамадскіх паслуг, якія выконваюцца па-беларуску, паўплывае на далейшае жаданне грамадзян вывучаць і ведаць беларускую мову і таксама карыстацца ёй як мовай, што дае больш шырокія магчымасці ў грамадскім жыцці.**

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Распрацаваць дапаможнікі для грамадскіх арганізацый з выкарыстаннем дзелавой лексікі.

❖ Арганізаваць курсы для валанцёраў па вядзенні справаводства і дзелавой перапіскі па-беларуску.

❖ Развіваць партнёрскія сувязі з рускамоўнымі няўрадавымі арганізацыямі, каб садзейнічаць перакладу дзелавой інфармацыі на беларускую мову.

❖ Наладзіць добрыя ўзаемаадносіны з кіраўнікамі і актывістамі грамадскіх арганізацый нацыянальных меншасцяў Беларусі, спадзявацца на іх як на сваіх сяброў.

**8. Дабрачынны сектар.** *Далейшае развіццё грамадзянскай супольнасці непазбежна вядзе да пашырэння дабрачыннага сектару, асабліва ў сферы апекавання над хворымі, дзецьмі і моладдзю, працы з людзьмі з канкрэтнымі патрэбамі і ў кансультатыўных паслугах. Патрэбна павялічыць магчымасці людзей, якія занятыя ў гэтым сектары, карыстацца беларускай мовай.*

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Арганізаваць беларускамоўны валанцёрскі рух.

❖ Заахвочваць дабрачынныя арганізацыі і дапамагаць ім пашыраць ужыванне беларускай мовы.

**9. Прыватны сектар.** *Вельмі важна, каб прыватны бізнес заўважыў выгоды ад карыстання беларускай мовай. Тады ён стане больш схільным да пашырэння беларускай мовы ў сваёй дзейнасці.*

*Найбольш спрыяльная атмасфера для выкарыстання мовы склалася ў сферы дробнага бізнесу, бо мова спажыўца, як правіла, становіцца і мовай таго, хто аказвае паслугі.*

Зусім іншае становішча мовы ў сферы сярэдняга і буйнога бізнесу. У сувязі з надзвычай вялікай залежнасцю гэтага прыватнага бізнесу ад дзяржаўнага кантролю і рэгулявання, а таксама ад таго, што большасць спажыўцоў з'яўляюцца рускамоўнымі, ТБМ неабходна працаваць у наступных кірунках.

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Варта паказаць выгоды ад візуальнага афармлення тавараў і месцаў аказання паслуг з абавязковым выкарыстаннем беларускай мовы.

❖ У супрацоўніцтве са згуртаваннямі і таварыствамі спажыўцоў дамагацца выкарыстання беларускай мовы.

❖ На замежных рынках праз беларускія дыяспары стварацы спрыяльныя ўмовы для тых вытворцаў, што карыстаюцца беларускай мовай пры афармленні тавараў як на ўнутраных, так і на знешніх рынках;

❖ Стымуляваць выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў і аказанні паслуг шляхам распаўсюджвання інфармацыі пра наяўнасць такіх тавараў і паслуг;

❖ Матываваць выкарыстанне беларускай мовы ў сферах сярэдняга і буйнога бізнесу, шляхам дэманстрацыі пашырэння сферы збыту прадукцыі з выкарыстаннем беларускай мовы.

❖ Працаваць з грамадскай думкай, паказваючы, што выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў або аказанні паслуг на Беларусі з'яўляецца не толькі імкненнем для пашырэння рынкаў збыту, але і жэстам павагі да беларускага грамадства ў цэлым.

❖ Садзейнічаць развіццю беларускіх народных промыслаў.

❖ Зацікавіць вытворцаў па вырабу адзення, выкарыстоўваць нацыянальныя традыцыі беларусаў з мэтай адраджэння народных рэгіянальных строяў.

**10. Інфармацыйныя тэхналогіі.** *Неабходна распачаць працу над выкарыстаннем беларускай мовы ў новых інфармацыйных тэхналогіях, што дазволіць мове стаць патрэбнай ва ўмовах сучаснага жыцця.*

Абмежаванні доступу беларускамоўным грамадзянам да СМІ і пастаянны ўціск на незалежныя выданні актывізавалі дзейнасць беларусаў у сферы асваення інфармацыйных тэхналогій. Неабходна надалей матываваць пашырэнне рэсурсаў на беларускай мове ў сеціве (INTERNET). Поўная адсутнасць беларускамоўных абалонак у сучасных кампутарных праграмах стрымлівае развіццё інфармацыйных тэхналогій на беларускай мове.

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Неабходна развіваць сецевыя парталы па-беларуску, у тым ліку ў даследчых і вышэйшых навучальных установах.

❖ Садзейнічаць далучэнню да сеціва беларускамоўных школ і беларускіх карыстальнікаў.

❖ Неабходна сфармаваць каманды праграмістаў для напісання праграмных абалонак па-беларуску.

**11. Незалежная прэса.** *Апошнім часам актыўна развіваецца незалежная рэгіянальная прэса. Аднак беларускамоўная прэса пакуль што не мае дастатковых грашовых сродкаў, каб мець прыбытак. Як правіла, пасяхова вытрымлівае канкурэнцыю рускамоўная прэса, якая ў меншай ступені мае ўціск з боку мясцовых улад.*

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Неабходна распрацаваць доўгатэрміновую праграму падтрымкі беларускамоўнай прэсы, у якой прадугледзець:

а) навучанне мясцовых журналістаў і рэдактараў выданняў умовам працы ў рынкавых умовах;

б) стварэнне цэнтраў прававой дапамогі і кансультавання для рэгіянальных выданняў;

в) распрацоўку спосабаў кампенсацыі страт і павышэння канкурэнтназдольнасці незалежных выданняў;

❖ Спрыяць забеспячэнню газет тэхнікай.

❖ Стварыць некалькі грамадскіх друкарняў, каб пазбегнуць практыкі, калі дзяржаўныя друкарні адмаўляюцца выконваць дамовы і заказы рэдакцый па розных прычынах.

**12. Кнігадрукаванне.** *У апошні час з-за адмысловай палітыкі сённяшняга дзяржаўнага кіраўніцтва адбыўся рэзкі спад вытворчасці беларускамоўнай кнігі. Праз сістэму дзяржаўнага гандлю беларуская кніга фактычна не трапляе ў рэгіёны Беларусі. Разбурыўшы сістэму дзяржаўнага выдання, а таксама і па ідэалагічных прычынах, не выдаюцца лепшыя творы беларускай літаратуры.*

***СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:***

❖ Садзейнічаць пашырэнню сеткі грамадскага кнігадрукавання, якой будзе значна лягчэй супрацьстаяць націску чыноўнікаў на беларускую кнігу.

❖ Стварыць сецевыя (INTERNET) крамы для распаўсюджання беларускай кнігі не толькі ў межах Беларусі, але і сярод беларускіх дыяспар і кафедраў славістыкі ва ўсім свеце.

❖ Праз міжнародныя праграмы забяспечыць пераклад сусветнавядомых твораў на беларускую мову, і твораў беларускіх пісьменнікаў на іншыя мовы.

❖ Стварыць "электронныя друкарні", якія б маглі выпускаць кніжную прадукцыю на кампакт-дысках (у форме "электроннай кнігі") і такім чынам распачаць праект "Ненадрукаваная кніга" для тых аўтараў, якія не маюць фінансавых магчымасцей распаўсюджваць свае творы ў друкаваным выглядзе.

***13. Рэлігійныя ўстановы.*** *Увесь час шматвернасць беларускага грамадства адмоўна ўплывала на захаванне незалежнасці Беларусі. Вельмі часта ў гісторыі Беларусі суседнія краіны скарыстоўвалі розныя веравызнанні і нізкую нацыянальную свядомасць насельніцтва для распальвання міжканфесійнай напружанасці, што давала магчымасць і зачэпку для ўмяшання ва ўнутраныя справы Беларусі. За савецкім часам уздеянне рэлігійных канфесіяў на грамадства значна аслабла. Цяпер назіраецца актывізацыя духоўнага і рэлігійнага жыцця на Беларусі. І менавіта на гэтым гістарычным этапе беларуская мова ў міжканфесійным жыцці павінна адыграць сваю аб'яднаўчую ролю*

(Заканчэнне на ст. 8.)



# СТРАТЭГІЯ

## дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" па развіцці беларускай мовы ў ХХІ стагоддзі

*(Заканчэнне Пачатак на стст. 5-7)*

*СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:*

❖ Выкарыстоўваючы сучасныя міжканфесійныя адносіны матываваць выкарыстанне беларускай мовы ў богаслужэннях і пропаведзях.

❖ Праводзіць гутаркі з вышэйшымі духоўнымі асобамі і святарамі па выкарыстанні беларускай мовы для розных катэгорый вернікаў у залежнасці ад іх запатрабаванняў (як правіла вернікі маладога веку абіраюць беларускую мову).

❖ Актыўна асвятляць факты выкарыстання беларускай мовы ў храмах праз сродкі масавай інфармацыі.

❖ Матываваць вядзенне службы па-беларуску як галоўнага чынніка яднання і захавання міжканфесійнай талерантнасці.

**14. Дзяржаўныя прадпрыемствы і ўстановы.** *Улічваючы, што большая частка насельніцтва занята на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці, ТБМ мусіць звярнуць асаблівую ўвагу на гэтыя прадпрыемствы. Кожны працуючы мусіць без перашкод карыстацца беларускай мовай на сваім рабочым месцы.*

*СПОСАБЫ ДЗЕЯННЯ ТБМ:*

❖ Дамагацца ад любой службовай асобы забяспечанага заканадаўствам права атрымліваць адказ на беларускай мове на запыт ці зварот па-беларуску.

❖ Звяртаць увагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і устаноў на недапушчальнасць ігнаравання беларускай мовы пры афармленні афіцыйных папер (загадаў, распараджэнняў, прапускоў), паколькі паўсюдна працуюць беларускамоўныя людзі, чые моўныя правы павінны задавальняцца. Незабеспячэнне неабходнымі інструкцыйнымі матэрыяламі на мовах, якімі карыстаюцца работнікі, можа стаць прычынай парушэнняў правілаў тэхнікі бяспекі.

❖ Прапанаваць кіраўнікам дзяржаўных прадпрыемтваў лёгкай і харчовай прамысловасці шырэй і часцей выкарыстоўваць беларускія народныя традыцыі па вырабу аналагічных тавараў і іх мастацкага афармлення.

**15. Установы і падраздзяленні міністэрстваў абароны, унутраных спраў, КДБ.** *Паколькі ў Беларусі існуе абавязковая вайсковая павіннасць і законапаслухмяны грамадзянін не мае права пазбегнуць выканання свайго абавязку перад Радзімай, трэба разглядаць вайсковую службу, як неад'емную частку грамадскага жыцця. Для любой арміі свету мовай афіцыйных зносін у войску з'яўляецца мова тытульнай нацыі. На сённяшні дзень праходжанне вайсковай службы для беларускамоўных грамадзян з'яўляецца праблематычным, бо перавод службы на беларускую мову (хаця б некаторых падраздзяленняў) знаходзіцца ў кампетэнцыі Міністэрства абароны. Аднак грамадскасць павінна прыкласці намаганні для забеспячэння беларускамоўным грамадзянам права праходжання службы на роднай мове.*

*СПОСАБЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА:*

❖ Садзейнічаць перакладу агульнавайскавых статутаў і міліцэйскай дакументацыі на беларускую мову.

❖ Ладзіць сумесна з вайсковымі спецыялістамі канферэнцыі і семінары з мэтай удакладнення і ўзгаднення вайсковай тэрміналогіі.

❖ Спрыяць правядзенню конкурсаў шыхтовых беларускіх песень.

❖ Матываваць перавод на беларускую мову жыцця элітных вайсковых падраздзяленняў, а таксама падраз-дзяленняў і органаў унутраных спраў.

❖ Аказваць метадычную дапамогу па беларускай мове вайсковым і міліцэйскім выданням.

❖ Падтрымліваць перавод навучання ў вайсковых і міліцэйскіх ВНУ на беларускую мову.

❖ Дамагацца ад кіраўніцтва Міністэрства абароны, МУС і КДБ распрацаваць праграмы па пераводу большасці падраздзяленняў на беларускую мову.

**16. Развіццё краязнаўства.** *Перспектыўнае развіццё літаратурнай беларускай мовы немагчыма без яе папаўнення дыялектнымі зваротамі і словамі.*

*НЕАБХОДНА:*

❖ Стымуляваць узнікненне ў рэгіёнах Беларусі краязнаўчых асяродкаў, спрыяючых збіранню і захаванню дыялектнай мовы;

❖ Распрацаваць праграму стварэння і падтрымкі краязнаўчых мастацка-літаратурных часопісаў.

**17. Фізкультура і спорт.** *ТБМ мае намер пашырыць сваю дзейнасць на фізкультурныя і спартыўныя арганізацыі. Як бліжэйшую мэту яно будзе дамагацца таго, каб гукавыя абвесткі на стадыёнах і рэпартажы карэспандэнтаў са стадыёнаў рабіліся пераважна на беларускай мове. Яно будзе праводзіць з арганізатарамі спартыўных клубаў работу, арыентаваную на стварэнне беларускамоўных спартыўных груп.*

### Раздзел III. Паляпшэнне стаўлення насельніцтва да беларускай мовы

**Акалічнасці, якія абумоўліваюць стаўленне людзей да мовы**

Бытаванне любой мовы не ў малой ступені вызначаецца стаўленнем да яе з боку ўсяго грамадства ў цэлым. Толькі 4 — 5 моў вялікіх дзяржаў не залежаць ад таго, як яны ацэньваюцца калектывамі, у якіх яны ўжываюцца. Што ж да моў невялікіх дзяржаў, то адносіны да іх маюць вялікае значэнне. Яны могуць захоўвацца і паспяхова развівацца толькі пры ўмове станоўчага стаўлення да іх у грамадстве і пры спрыянні дзяржаўных органаў.

На адносіны да мовы ўплываюць розныя акалічнасці:

Калі нейкая мова шырока ўжываецца ў грамадстве і без яе ведання і выкарыстання цяжка абысціся ў жыцці, дык яна карысная і паважаецца ўсімі. Зыходзячы з гэтага трэба ўсяляк спрыяць пашырэнню ўжывання беларускай мовы ў грамадстве.

Каб наша родная мова стала прывабнай у грамадстве, патрэбна зрабіць яе прыстыжнай, г. зн. прыдатнай да выканання самай высокай ролі ў грамадстве (дзяржаўнае кіраванне, адукацыя, сродкі масавай інфармацыі, бізнес, культура, адпачынак), калі без яе ведання нельга атрымаць высокааплатную працу.

Беларуская мова мае багатую лексіку і дасканалы правапіс, але на Беларусі яна апынулася ў становішчы непрэстыжнай, г. зн. прыдатнай да выканання, пераважна, ніжэйшых функцый у грамадстве (зносіны ў побыце і сельскагаспадарчай вытворчасці), яна не патрабуецца, каб атрымаць высокааплатную працу. Карыстальнікі камп'ютараў і студэнты універсітэтаў ні разу не сутыкаліся з беларускай мовай у камп'ютарах, бо дагэтуль не выдадзены вялікія англійска-беларускія і нямецка-беларускія слоўнікі. Іх патрэбна яшчэ падрыхтаваць.

Трэба дамагацца таго, каб валоданне беларускай мовай стала кваліфікацыйнай умовай для атрымання розных рабочых месцаў, звязаных з грамадскай сферай. Таварыства беларускай мовы будзе садзейнічаць падрыхтоўцы разнастайных беларускамоўных падручнікаў, перакладной літаратуры (не толькі мастацкай!), слоўнікаў, а таксама будзе імкнуцца знязь ці, прынамсі, аслабіць напружанне, якое існуе паміж прыхільнікамі дзвюх правапісных традыцый у беларускай мове. Важным інструментам паляпшэння стаўлення да беларускай мовы з'яўляецца ўздым нацыянальнай свядомасці беларусаў. Дзеля таго ТБМ будзе садзейнічаць выпуску беларускіх кніг па гісторыі сваёй Бацькаўшчыны і краязнаўстве.

Сёння ТБМ не можа непасрэдна ўплываць на прэстыжнасць мовы, але рэзервы для працы ёсць. Трэба імкнуцца да таго, каб беларуская мова звязвалася не толькі з традыцыяй ці нацыянальнай ідэнтычнасцю, а з сучасным жыццём. У прапагандысцкай дзейнасці трэба пазбягаць замацавання за беларусамі вобразу пакрыўджаных і абяздоленых. Паколькі сапраўды правы беларусаў амаль усюды парушаюцца, дык не абыйсціся без рэзкіх ацэнак, якія могуць спрыяць развіццю і замацаванню за беларусамі характарыстыкі пакрыўджанага народа. Увогуле, пратэсты трэба дазіраваць з сцвярджальнымі заявамі і ні ў якім разе нельга кідацца ў паніку.

Паколькі рэальным выбарам меншых народаў у свеце становіцца дзвюхмоўе і трохмоўе, дык ад прапаганды аднамоўя, трэба перайсці да актыўнай прапаганды дзвюхмоўя і нават трохмоўя. Шмат беларусаў сапраўды з'яўляюцца дзвюхмоўнымі, і ў гэтым сэнсе яны лепш адпавядаюць сучаснасці. Калі шматмоўе паказчык культуры і інтэлігентнасці чалавека, дык рускамоўныя грамадзяне Беларусі часта аднамоўныя. Сёння чалавек, які валодае беларускай мовай, больш адукаваны і культурны, і гэту акалічнасць варта выкарыстоўваць у прапагандзе.

Ва ўмовах Беларусі, дзе існуе доўгая традыцыя ўціску асобы, вобраз "навязванай дзяржавай мовы" можа быць карысны. Аднак грубыя, недастаткова прадуманыя заходы дзеля пашырэння беларускай мовы могуць атрымаць вельмі непажаданы розгалас у грамад-стве.

Неабходна спрыяць павышэнню аўтарытэту ТБМ як арганізацыі высокаадукаваных, культурных, дэмакратычна настроеных, актыўных людзей, якія выконваюць важныя для беларускага грамадства задачы.

**Змена звычак карыстацца чужой мовай.**

Шырокае ўжыванне беларускай мовы залежыць ад стаўлення людзей да яе. Існуе вялікае разыходжанне паміж колькасцю людзей, якія валодаюць беларускай мовай, і тымі, якія рэальна карыстаюцца ёю. Традыцыя неўжывання беларускай мовы мае асабліва глыбокія і трывалыя карані ў гарадскім асяроддзі.

Спадзеючыся на паспяховае правядзенне беларусізацыі дзяржаўнымі органамі на аснове Закона аб мовах, шмат хто з беларусаў, у тым ліку і актывісты ТБМ, не лічаць патрэбным карыстацца беларускай мовай на рабоце і дома, у транспарце і ў крамах, чым не стымулююць пашырэння беларускай мовы і тым самым наносяць вялікую шкоду прэстыжу роднай мовы.

Паглыбленню даверу да беларускай мовы трэба садзейнічаць праз прыстасаванне працоўных калектываў да беларускамоўных зносін і праз стымуляванне людзей больш шырока ўжываць беларускую мову ў самай разнастайнай дзейнасці. Існуе пільная патрэба ў тым, каб тыя, хто валодае беларускай мовай, карысталіся ёю ўсюды (на рабоце, у дарозе і дома).

### Раздзел IV. Матэрыяльнае забеспячэнне стратэгіі дзейнасці ТБМ па развіцці беларускай мовы

*Распрацаваная стратэгія вымагае матэрыяльных рэсурсаў, а таму неабходна з дапамогай спецыялістаў дакладна вызначыць колькасць фінансавых сродкаў для выканання мерапрыемстваў, прадугледжаных у гэтай стратэгіі.*

**Аснову фінансавння павінны складаць:**

❖ Складкі сяброў арганізацый, што падтрымліваюць палажэнні дадзенай стратэгіі;

❖ Адвольныя дабраахвотныя складкі сяброў суполак ТБМ (без навязвання памеру складак),

❖ Добрадзейныя ахвяраванні грамадзян Беларусі і беларускіх дыяспар у іншых краінах свету;

❖ Фінансавая дапамога суб'ектаў гаспадарання Беларусі;

❖ Доўгатэрміновыя міжнародныя праграмы, накіраваныя на пабудову цывільнага грамадства;

❖ Дапамога Еўрапейскага Саюза, накіраваная на развіццё еўрапейскіх моў;

❖ Пры змене стаўлення кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь да развіцця мовы тытульнага этнасу сваёй краіны ў лепшы бок фінансаванне можа ажыццяўляцца па дзяржаўных праграмах.

### Высновы

Беларуская мова павінна панаваць ва ўсіх сферах грамадства, і тады яна стане здольнай да самастойнага выжывання. Таму трэба забяспечыць, каб людзям былі даступныя магчымасці ўжываць мову ва ўсіх стасунках адзін з адным, а таксама ў працэсе адпачынку і працы.

ТБМ спадзяецца пашырыць сваю дзейнасць у розных галінах гаспадаркі і культуры.

Неабходна мэтанакіравана праводзіць работу дзеля таго. каб на Беларусі гучала беларуская мова на кожным працоўным месцы.

Апіраючыся на шырокі актыў, на падтрымку інтэлігенцыі і дзяржаўных органаў Рада ТБМ імя Ф. Скарыны зможа дасягнуць пастаўленых стратэгічных мэт.

*Над Стратэгіяй дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" па развіццм беларускай мовы ў ХХІ стагоддзі працавалі:* **С. Запрудскі, А. Анісім, С. Барыс, У. Кошчанка, С. Кручкоў, А. Мальдзіс, С. Суднік, А. Таболіч, Г. Цыхун.**

**Агульная рэдакцыя С. Барыса.**



# Калядная сустрэча ў сядзібе ТБМ





У нядзелю 28 снежня ў сядзібе ТБМ у Менску адбылася калядная сустрэча пісьменніцы Вольгі Іпатавай і адказнага сакратара ТБМ Ірыны Марачкінай з вучнямі Першамайскай СШ Бярозаўскага р-на, Берасцейскай вобласці. У сустрэчы прынялі ўдзел 14 вучняў і трое настаўнікаў, начале з класным кіраўніком і настаўніцай беларускай мовы ды літаратуры Аляксандрай Іванаўнай Дзейка.

**На здымках:**
1. Выступае Вольга Іпатава;
2. Удзельнікі сустрэчы.

*Наш кар.*

## КОНКУРС НА СТВАРЭННЕ НАДМАГІЛЬНАГА ПОМНІКА УЛАДЗІМІРУ МУЛЯВІНУ ПРАДОЎЖАНЫ

Міністэрства культуры Беларусі прадоўжыла адкрыты конкурс на стварэнне надмагільнага помніка народнаму артысту СССР, мастацкаму кіраўніку ансамбля “Песняры” Уладзіміру Мулявіну.

Як паведаміў БелаПАН галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Мікалай Скварцоў, падводзячы вынікі конкурсу, журы так і не здолела выбраць адну з прадстаўленых работ і вырашыла прасіць Мінкульт аб працягу тэрміну конкурсу да 19 студзеня. За гэты час павінны быць дапрацаваны тыя шэсць работ, якія журы вызначыла ў якасці лепшых.

Скварцоў паведаміў, што 12 студзеня, у дзень нараджэння Мулявіна, пройдзе чарговая сустрэча з аўтарамі гэтых работ. Паводле слоў М.Скварцова, “усе аўтары праігнаравалі просты момант: як правіла, ніхто не мае прывязкі да месца — гэта значыць, ніводны скульптар не запрасіў у суаўтары архітэктара”. Акрамя таго, скульптары не ўлічылі тую абставіну, што паводле правілаў надмагільны помнік не можа быць вышэйшым за 1 метр 80 сантыметраў.

*Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН*

### Адказы на крыжаванку са ст. 12.

**Па гарызанталях:** 2.Бядак. 6.Жамяра. 7.Асадка. 9.Сьцяг. 12.Замак. 15.Унік. 16.Рог. 17.Апад. 18.Лад. 19.Тор. 20.Крые. 21.Менск. 24.Ніяк. 26.Палі. 28.Аўто. 30.Дор. 31.Гучаў. 32.Лаз. 33.Мэта. 34.Кроп. 36.Бачу. 38.Крыга. 41.Узяў. 43.Рух. 45.Мех. 46.Мары. 47.Гак. 48.Ікол. 49.Нейкі. 52.Іраяд. 56.Каўнер. 57.Стайня. 58.Качка.

**Па вертыкалях:** 1.Цяць. 2.Баня. 3.Дак. 4.Кара. 5.Кава. 6.Жаўнер. 8.Акрамя. 9.Склеп. 10.Цуд. 11. Грае. 12. Згас. 13.Міт. 14.Карма. 20.Кодаб. 21.Мігак. 22.Ночвы. 23.Каўка. 25.Казаў. 27.Арэ. 29.Тло. 33.Мур. 35.Пухір. 37.Азадак. 39.Рогі. 40.Гукі. 42.Ядомыя. 44.Хай. 45.Моц. 50.Еўня. 51.Карк. 53.Рыса. 54.Явар. 55.Рэч.

# Віншаванні ТБМ




### *З Калядамі і Новым годам ТБМ павіншавалі*



**Арцыбіскуп Іван Юркавіч, Апостальскі Нунцый:** “З сардэчнымі прывітаннямі ў свята Нараджэння Хрыстова і пажаданнямі, каб Усемагутны Бог блаславіў Вас мірам і дабрабытам у 2004 Новым Годзе”.

**Кіраўнік місіі АБСЕ ў Беларусі Эберхард Хайнец:** “Паважаны сп. А Трусаў! Дазвольце павіншаваць Вас і вашых калег з надыходзячымі Калядамі і Новым Годам. я спадзяюся на нашае далейшае супрацоўніцтва ў новым годзе. Жадаю Вам поспехаў.”

**Амбасада Злучаных Штатаў Амерыкі:** “Шчаслівых святаў і цудоўнага Новага года.”

**Амбасада Чэшскай Рэспублікі:** “Найлепшыя пажаданні ў новым годзе.”

**Амбасада Літвы.**

**Дэпутацкая група “Рэспубліка”:** “Няхай здароўе будзе моцным, хата светлай і ўтульнай, удача пастаянным спадарожнікам, а праца паспяховай.”

**Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”.**

**ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”.**

**ГА “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”.**

**Партыя БНФ.**

**Беларускае Эстонскае Згуртаванне (БЭЗ).**

**ЗАТ “БелКП - ПРЕСС”.**

**Інфармацыйнае агенства БелаПАН.**

**Фонд імя Льва Сапегі.**

Шматлікія сябры ТБМ і беларусы з усяго свету, у тым ліку:

**Надзея Барт-Юрэвіч**, Германія;

**Леакадзія Мілаш**, Вільня;

**Радзім Гарэцкі**, Менск;

**Яўгенія і Барыс Казлоўскія**, Бабруйск;

**Станіслаў Акінчыц,**

**а таксама многія іншыя**, бо далёка не ўся навагодняя пошта ўжо дайшла да рэдакцыі.

Лідская гарадская арганізацыя ТБМ атрымала асобнае віншаванне ад **дэпутата Палаты прадстаўнікоў Сяргея Скрыбца.**

***Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты “Наша слова” шчыра дзякуюць усім нашым сябрам за шчырыя віншаванні і добрыя пажаданні. Мы выказваем спадзяванні на нашае плённае супрацоўніцтва ў новым годзе.***



С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 22. ВОРАГ

Ад янтарных прыйшло берагоў
Тое ліха і гора.
Сумна плёскала хваляй тугой
Адабранае мора.
Вораг сам для пачварнага зла
Абіраў час-гадзіну.
Ля здабычы паўсюдна была
У шаленца радзіма.
Падпаўзаў, як удаў,
Ды сачыў, небяспечны памежнік.
Са спіны нападаў,
Клацаў клыкам атрутным
драпежнік.
Дзе там велічны леў –
Хцівым катам і шулерам-магам
Перад светам шалеў
І размахваў Госпада сцягам.
Як не чуў ён сваім целам чорным
Звычайнага болю.
Кіпцюроў крумкачовых
Жалезная правіла воля.
Баляваў час чумы
І круціліся д'яблавы мроі.
Воды Нёмна, Дзвіны
Захлыналіся мірнаю кроўю.
З нашай любай зямлі
Нечуваным бралося аброкам.
З намі, напаўлюдзьмі,
Ці не ўсё дазвалялася Богам?
Плыў ружовы туман,
І мячы не хвалілі мужчыны
Бы ўпарты таран зноў і зноў
Біў у сцены Айчыны.
Ды ступала нялёгка чужая нага
Палымнела вуголле.
Уздымаў нас трывожны набат
Непахіснай "Пагоні".
Не ўжыцца было з ліхадзеямі
Матчынай песні.
Нашы дзеці у вочы глядзелі нам-
Ці застанемся?
Што замест гэтай праўды зямной
Ведаў вораг бязродны
З замагільнай раллёю сваёй
І сяўбою смяротнай?
Дрэнна кошт ён узважыў
Таго акаяннага раю.
Па касцях, хіба, нашых
Туды ўварвалася б зграя.
О, нямарна штогод
Мы выходзілі супраць упарта.
Нараджаўся народ,
Уздымалася племя
сталёвага гарту.
І гучалі ўжо яго моцныя рухі
Ў свеце.
І насустрач нам верныя рукі
Цягнулі суседзі.
Паасобку калісь пачалі
Шлях у вечнасці далі,
Ды злівала яго ручаі
Ў адзіную хвалю.
Каб трывожную цемру
расціснуць,
Палаюць паходні.
Нам бы мірнаю справай сысціся
З суседам заходнім.
Ды было ж – не маланкамі сталі
Бліскучалі нам хвалі.
Часта госці адтуль гандлявалі,
Умельцы майстэрствам дзівілі.
А пасля – зноў прыходзіла
ад сатаны
Тое ж панства.
Бачыў перад сабой
гадаванцаў вайны
Свет славянства.
І глухі чуў тады –
Пасягнулі пігмеі на нетры.
Скалы толькі мацнеюць заўжды
Ад шалёнага ветру.

### 23. АТЛАНТЫ

У памяці адкаляліся трывала
Грымоты нашай ранішняй пары.
Нібы са скал там
высечаны шквалам
Суровыя Літвы валадары.

Абранцы вёрст,
заўсёды небяспечных,
Дзе што ні частка шляху,
то й мяжа,
Падставілі крутыя глыбы-плечы
Пад жудасны атлантавы цяжар.

Усё, што мелі, кінулі на шалі.
Не паднясуць
цярпліўцу-жабраку.
Адчулі часу існіну – падалі
Славянству сваю згодную руку.

Праз след-працяг
жыццёвая турбота
Давала сілу слаўнай іх зямлі,
Дзе моцнай плоцю
ўпартага народа
У вырашальны міг яны былі.

Збіралі з грамадой
вакол абшары,
Адна з ёй непарушная сям'я.
Рашучыя і грубыя іх твары
Яе ж паганскі нораў асвятляў.

Злавала процьма
ворагаў амбітных –
Спакойных раніц не было ад іх.
І зноў князі, знявечаныя ў бітвах,
Сядаліся на коней баявых.

Хапала й побач
махляроў мяцежных.
Асоб каварных
касталомных звад.
А прабіраўся
ў дамкі найдужэйшы,
Адначасова – шэльма і вар'ят.

Даймала ява шалам нецвярозым,
Калі сцякаў з ілба гарачы пот.
І мог адно хіба паганскі розум
Пракласці шлях
скрозь рыфы перашкод.

Не славіліся, як граху пачвары
Ці ўтрапёнцы веры на Русі.
Прыносілі багам не раз ахвяры,
Ды потым выракаліся з усіх.

Не бачылі яны слядоў ад юды
У надта простай змене абразоў.
Лацінскі крыж
прымалі без пакуты
І грэчаскім хрысціліся ізноў.

Каму яшчэ не заміналі вельмі
Высокія пачуцці ў іх жыцці!
Дык болей, чым усім,
ім за сумленне
Даводзілася дорага плаціць.

Быў на адценні
край смугі багаты.
Трымалі й крыжакоў
не за сцяной.
Дзеля агнёў спакуслівай улады
Не грэбавалі клятвай і маной.

Але ж уратавалі ад палону.
Не аддалі нас полымю, пятлі.
Будаўнікамі сталі свайго дому,
Збіральнікамі люду і зямлі.

Сам Бог блаславіў
нашае спатканне,
Калі суладна прынялі стырно.
І доўга ўспамінаць
нам час світальны –
Былі нямарна з імі заадно.

Нашчадкі Ефрасінні і Рагнеды,
Пары вясеняй чысты запавет,
З'ўляліся мы моцна
перад светам,
За сонцам узыходзілі наўслед.

### 24. МІНДОЎГ

І нас жа не вечна дзяўбло.
Быў час на літоўскай дарозе.
Успомнім – калісьці даўно
З Міндоўга ўсё пачалося.



Апошняе ставіў на кон.
З дзікае пушчы ці чашчы
З кіёчкам выгнанніка ён
З'явіўся ў гісторыі нашай.

Патоліў сусветны замах,
Амаль што галодны і босы.
У Навагародку на шлях
Дазвол ён пачуў ад нябёсаў.

Не грэбаваў лезці і ў гразь.
Хаўруснікаў – змеем і лісам –
Шукаў ліхарадкава князь
Удалечыні і паблізу.

І землі чужыя "дарыў",
Мацуючы згоду слязою.
І гэтак суседзяў сварыў,
Супернічыў іх між сабою.

Крупіўся ва ўсе ён бакі,
Часу не меў на маралі.
І самі ажно крыжакі
Ліцьвіну таму ўспамагалі.

Улады адной акрамя
Не помніў трывальай стыхіі.
Што веры – дык проста мяняў,
Як боты адны на другія.

Ведаў добра так проста сама
Сям'я каралёў нас не прыме.
Наведаў, аднак, нездарма
І Бога намесніка ў Рыме.

Злаваў небяспечных людзей,
Блукаючы між берагамі.
Хадзіў рызыкоўна штодзень –
Гарэла зямля пад нагамі.

Такія няпроста жывуць,
Рабамі ці то каралямі.
Зайздрасці ўзняў каламуць --
Забіты быў разам з сынамі.

Застаўся, аднак, на вякі,
Ён - нашы і гонар, і боль.
Акрэсліў Літвы берагі
Наваградскі першы кароль.

### 25. ВОЙШАЛК

Наследаваў справе працяг
І крок яе пэўны, не горшы.
Быў сын князя, Войшалк-манах,
За бацьку куды асцярожней.

Звяно да звяна ў свой ланцуг
Лучыўшы, яго стрыжань ведаў
У тым, што ўмацоўваўся дух
Яднальнае грэчаскай веры.

Наогул – вёў справу цішэй
І болей – разумнаю згодай.
Адно – прыціскаў да грудзей
І воляй суседа валодаў.

Дзяржаўную меў даланю –
Сышліся народы па-людску.



Назваў бо сябе ўпершыню
Ён князем літоўскім і рускім.

### 26. ГЕДЗІМІН

А лёс спрабаваў на разрыў.
Адзіны ты ў полі – не ратнік.
З Літвою ў цэлае зліў
Наш край Гедзімін-пашыральнік.

Лучыў, але й волю даваў,
Не лез у душу ён настырна.
Хто б горача не пажадаў
Дамовіцца з гэтакім мірна.

Але ж, маскалёў і Маскву
Ужо не на жарт устрывожыў:
Ля Пскова падняў булаву,
На ўсход праламаў агароджу.

Лацінству ні сябар, ні зяць,
Не ведаў нягоды ў ім краю.
З палякамі разам біў князь
Крыжацкую хцівую зграю.

Гучала пры ім талака,
Прастор абжываючы дзікі.
Дух дойліда, будаўніка
Пакінуў у замках шматлікіх.



У наш слаўны будучы Рым
Як стрэліў яго ўладны посах.
Ўзышла зорка Вільні пры ім
У слынных літоўскіх нябёсах.

Удумліва рухаў стырно,
Цярпліўшы аб будучым клопат.
Прывеціў, як бацька – сыноў,
Майстроў адмысловых
з Еўропы.

Шырокай спагадай грашыў
Увесь яго нораў цярплівы.
Ён кожнае слова душы
Да Бога – лічыў справядлівым.

З ім дожыўся наш радавод
Праз велічны след Візантыі.
Займеў праваслаўны народ
Уласную мітрапалію.

### 27. АЛЬГЕРД

Мяняўся да лепшага свет,
Усходзіла цветам насенне.
Заўзяты ўсходнік Альгерд,
Паставіў на рускія землі.

Ён грэцкім аддаў абразам
І сэрца, і лёсу намеры.
Узяў крывічанку, і сам
Прыняў праваслаўную веру.



Буяніў, аднак, на масту.
Не стаўшы лагодна-пакорным.
Аж тройчы, упарты, Маскву
Мячом казытаў каля горла.

Драпежна пужаў маскаля
І немца няласкава цешыў.
Не сходзіў, задзіра, з каня,
Рассунуў дзяржаўныя межы.

Паўднёвае ліха дражніў
І помсціў рашучай рукою.
Татарам жа князь удружыў –
Абліў жорсткай Сіняй Вадою.

### 28. ЯГАЙЛА

Не так усё гладка было
У гэтай упэўненай былі.
Вось ляхі звялі аднаго,
Ягайлу калісь спакусілі.

Абрыдлі яму землякі,
Іх лад азіяцкае хаты.
Падаўся ён у прымакі,
Да знакаў паважнай улады.

Разлічваў – бліжэй стане Рым,
Гучней пад каронай дарога.
Ды знаўся з наглядам трайным
Настырнага польскага вока.

Затое ж, калі дапяклі,
Прыняў каталіцкія путы.
Айчына, твае каралі
Паходзілі з хітрага люду.

І з гэтым таксама – цялю
Не тузацца норавам простым.
Накінуў каварства пятлю
На Кейстута высакародства.

Былы незасыпаны роў
Трывожыў дзяржаўнае цела.
Масква на чале маскалёў
У вочы нахабна глядзела.

Збірала на бітву народ
Ягайлы праціўніца злая.
Ішоў у яе слаўны год
Герой на падмогу Мамаю.

Якога б яшчэ ён стакрат,
Управіўся д'ябла запрэгчы?
Ды Вітаўт з ім, стрыечны брат,
Сысціся наважыўся ў спрэчцы.

*(Працяг у наступным нумары.)*



Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

**Дзейныя асобы:**

*Кацярына II* — імператрыца расійская.
*Панятоўскі Станіслаў Аўгуст* — граф, пасол, кароль Рэчы Паспалітай.
*Остарман* — віца-канцлер расійскай імперыі.
*Рапнін* — князь, набліжаны Кацярыны II.
*Суворaў* — граф, палкоўнік, генерал-аншэф, фельдмаршал.
*Ігельстром* — барон, галоўнакамандуючы расійскімі войскамі.
*Булгакаў* — расійскі пасланнік у Варшаве.
*Касцюшка Андрэй Тадэвуш* — кіраўнік паўстання ў Рэчы Паспалітай.
*Ясінскі Якуб* — кіраўнік паўстання ў Вялікім Княстве Літоўскім.
*Калантай Гуга* — польскі палітычны дзеяч і асветнік.
*Патоцкі Ігнацы* — польскі палітычны дзеяч і асветнік.
*Агінскі Міхал Казімір* — гетман вялікі Вялікага Княства, кампазітар.
*Агінскі Міхал Клеафас* — палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар.
*Яленскі* — філосаф-самавук.
*Цырымоніймайстар.*

**Дзея першая**

**I**

*У сваім рабочым пакоі імператрыца Кацярына II, як звычайна, прыхарошваецца каля люстра, аглядае сябе з усіх бакоў, папраўляе прычоску, прыпудрывае твар. На выгляд ёй гадоў 30.*

*Адкрываюцца абедзве паловы дзвярэй. З'яўляецца цырымоніймайстар.*

**Цырымоніймайстар** *(урачыста)*. Ваша імператарская вялікасць, з аўдыенцыяй польска-саксонскі пасол граф Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

**Кацярына II.** Прасі графа...

*Цырымоніймайстар выходзіць. З'яўляецца Панятоўскі. Дзверы за ім зачыняюцца. Паслу не больш за 30 гадоў. Ён застывае ў цырыманіяльным паклоне. Кацярына набліжаецца да яго, абдымае, іх вусны зліваюцца ў доўгім пацалунку. Нарэшце Панятоўскі апускаецца на калені, рукі яго слізгаюць па спіне, таліі і ніжэй таліі імператрыцы. Яна перабірае яго пругожыя хвалістыя валасы.*

**Панятоўскі** *(як стогн )*. Ваша вялікасць, пасол губляе галаву!..

**Кацярына II.** Калі б гэта было так, пасол даўно прыдумаў бы нейкую грамату, ноту, пратэст, каб уручыць іх імператрыцы і атрымаць ва ўзнагароду пацалунак... але галавы не губляць. Паслу яна не шкодзіць...

**Панятоўскі.** Ці смею ж я прыдумваць нешта несапраўднае маёй яснавяльможнай царыцы, найлепшай, найпрыгажэйшай, найразумнейшай, найпрыемнейшай з усіх жанчын свету, бо яна тут жа разгадала б тую няпраўду...

**Кацярына II** *(гулліва)* А Сянэка сцвярджае, што мова праўды простая...

**Панятоўскі** *(падымае вочы на царыцу)* Таму я і кажу, што згараю ад нястрымнага пачуцця кахання...

**Кацярына II** *(павучальна)*. Найразумнейшыя людзі асуджаюць нястрымныя пачуцці, прыпісваюць ім усе чалавечыя няшчасці...

**Панятоўскі.** І пры гэтым забываюць, што менавіта такія пачуцці з'яўляюцца крыніцамі ўсіх нашых радасцяў! Нашы пачуцці — гэта ветры, што надуваюць ветразі караблёў

**Кацярына II.** Часам яны топяць карабель.

**Панятоўскі.** Але без ветру ён не мог бы плаваць...

**Кацярына II.** Уладарыць над пачуццямі не той, хто карыстаецца імі, як кіраўца караблём або канём, гэта значыць накіроўвае іх туды, куды трэба і карысна.

**Панятоўскі.** У тваіх руках, маё сонейка асляпляльнае, і стырно карабля, і павады скакуна.

**Кацярына II.** Пасол забывае пра два асноўныя набыткі чалавечай прыроды — розум і развагу, пра што яшчэ Плутарх напамінаў.

**Панятоўскі.** Але ж, шчасце маё маё ненагляднае, і Тацыт Публі Карнэлі сказаў не блага: рэдкі шчаслівы час, калі дазволена адчуваць, што хочаш, і гаварыць, што адчуваеш.

**Кацярына II.** Калі ў шаноўнага пасла гэтыя часы такія рэдкія, то ці варта было прасіць аўдыенцыі ў царыцы?...

*Панятоўскі ўскоквае з падлогі збянтэжаны і абражаны. Кацярына II адчувае гэта і бярэ яго пад руку, падводзіць да канапы, прапаноўвае сесці і сама сядаецца побач.*

*(Прымірэнча)*. У Прыродзе разумных істот закладзена здольнасць адчуваць свае надасканаласці, — сцвярджае Мантэск'е, — таму прырода і дала нам сарамлівасць, адчуванне сораму перад гэтымі недасканаласцямі.

**Панятоўскі.** У маёй царыцы няма недасканаласцяў. А ўяўны сорам забараняе тое, чаго не забараняюць законы, што даў сам Бог!

**Кацярына II.** Мой добры сябар, царыца не адчувае нейкай вінаватасці. Але вялікая магутнасць сумлення дае магчымасць адначасова адчуваць, адымаючы ў невінаватага ўсякую боязь і беспярэпынна малюючы ўяўленню вінаватага ўсе заслужаныя ім пакаранні.

**Панятоўскі.** Беспадобная царыца, увасабленне харастава і дабрыні, ўшануй мяне адзіным пацалункам *(нахіляецца і цалуе ў вусны, царыца затрымлівае пацалунак)* і зараз карай мяне, чым хочаш...

**Кацярына II** *(задумена)*. Усе пашаны гэтага свету не вартыя аднаго добрага сябра... Колькі розных выгод аб'ядноўвае ў сабе сяброўства!Куды б мы ні звярнуліся, яно да нашых паслуг; яно паўсюдна; ніколі яно не дакучае, ніколі не прыходзіць недарэчы; яно надае харству новы бляск, няўдачы, якія яно падзяляе, губляюць сваю вастрыню. У свеце няма нічога лепшага і больш прыстойнага, чым сяброўства і каханне; выключыць іх з жыцця-усяроўна, што пазбавіць свет сонечнага святла...

А ты прыйшоў да мяне, каханы, проста па нейкай казённа-дзяржаўнай справе. Ці ж не так?..

**Панятоўскі.** *(падымаецца з канапы)*. Найшаноўнейшая з царыц, найлепшае стварэнне з усіх стварэнняў пана Бога, на шчасце ці на бяду але гэта так—кароль Польшчы і вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Аўгуст III сканаў 5-га кастрычніка.

**Кацярына II.** *(задумена)*. Аддаю табе належнае пасол. Ты сапраўды і надоўга можаш ахалодзіць жар любога стварэння свету *(Падымаецца з канапы, пераходзіць да стала, звоніць у званок)*.

*З'яўляецца цырымоніймайстар.*

Князя Рапніна і віца-канцлера Остармана да мяне, неадкладна.

*Цырымоніймайстар выходзіць.*

Сядай за стол, князь Панятоўскі. Адкладзем любошчы і зоймемся палітыкай. *(Садзіцца.)* Ты ведаеш, Станіслаў Аўгуст, што такое палітыка? *(Уважліва глядзіць на суразмоўцу)*.

**Панятоўскі.** Баюся падацца смешным перад вашай вялікасцю, царыца царыц, у вызначэнні такога складанага паняцця, як палітыка...

**Кацярына II.** Я дазволю табе быць смешным перада мною не як перад царыцай, а толькі як перад жанчынай. У тым і будзе мая жаноцкая асалода. А ўся палітыка, мой ты харошы, заключаецца ў трох словах: абставіны, меркаванні і... выпадковасць.

*Уваходзяць Рапнін і Остарман, кланяюцца. Кацярына жэстам запрашае іх сесці за стол побач з Панятоўскім. Яны чулі апошнія словы імператрыцы, якая прадаўжае размову з Панятоўскім.*

Да выпадковасці, граф, якую павінны былі прадбачыць Расія, Аўстрыя і Прусія, можна аднесці смерць караля Аўгуста і пытанне аб выбранні новага караля Польшчы.

*Рапнін і Остарман устаюць.*

**Остарман.** Якое няшчасце! Прыміце, князь, нашы шчырыя спачуванні Рэчы Паспалітай двух народаў і ваш асабіста.

**Кацярына II.** Нажаль, спачуванні не зменяць таго, што Аўгуст III быў нікчэмным каралём і яшчэ горшым вялікім князем

*Абескуражаныя Рапнін і Остарман сядаюцца.*

Паколькі Аўгуст паміраў доўга, я не думаю, што польская магнацкія групоўкі сядзелі гэты час і проста чакалі смерці хворага, а не рыхтаваліся да барацьбы за пасад для сваго стаўленіка. Мне б хацелася, каб шаноўны пасол граф Панятоўскі не хаваў ад тых, хто да яго ў нас вельмі прыхільна ставіцца, і паведаў нам, якія з груповак ужо найбольш вызначыліся ў сваіх сімпатыях да магчымых прэтэндэнтаў на каралеўскі і вялікакняскі пасад. І наогул, чаго вартыя гэтыя групоўкі.

**Панятоўскі.** Я — паляк, ваша імператарская вялікасць, але сэрца маё належыць Пецярбургу, Расіі. І я не толькі пацвярджаю наяўнасць у Рэчы Паспалітай магнацкіх груповак. Вакол магнатаў групуецца шляхта, якая шукае пратэкцыі, абароны жыцця і маёмасці. Рэч Паспаліта двух народаў, як яе некалі называлі, сёння толькі Рэч Паспаліта Польска. Літоўскае княства амаль страціла сваю аўтаномію, ад чаго амбіцыі яе магнатаў толькі ўзраслі, абвастрыліся. У Княстве, як і ў Каралеўстве, пануе анархія. Кожны шляхціц у сейме пры выбарах караля адным голасам можа заблакаваць любое яго рашэнне, або сарваць пасяджэнне, карыстаючыся свабоднай забаронай — знакамітае liberum veta. Не выпадкова ў нас існуе прымаўка: "Шляхціц у агародзе роўны ваяводзе", або "У Польшы кожны большы". Шляхта аб'ядноўваецца ў вайскова-палітычныя саюзы, так званыя канфедэрацыі. Яе "залатая вольнасць" абарочваецца самавольствам, беспарадкамі, анархіяй. Апошнім часам выразна вызначыліся групоўкі Чартарыйскіх, якую ўзначальваюць браты: Міхаіл, вялікі канцлер літоўскі, і Аўгуст, ваявода рускі; Патоцкіх начале з ваяводам Патоцкім і віленскім ваяводам Каралем Радзівілам; Масальскія — бацька, гетман літоўскі і сын, віленскі епіскап; і яшчэ лідар саксонскай партыі — коронны гетман граф Браніцкі. Але самая ўплывовая групоўка Чартарыйскіх.

**Рапнін.** Па маіх звестках на карону спадзяецца нават граф Міхал Казімір Агінскі. А дапамогу яму абяцае кароль дацкі.

**Остарман.** Аўстрыйская імператрыца Марыя Тарэзія, таксама бачыць на польскім троне сына памерлага Аўгуста III — саксонскага курфюрста Фрыдрыха Хрысціяна Леапольда.

**Кацярына II.** У нахабнай Марыі Тарэзіі нічога не выйдзе. Я загадзя ўгаварыла прускага караля Фрыдрыха пагадзіцца з маёй прапановай аб абранні пераемнікам караля некага з палякаў...

**Рэпнін** *(да Панятоўскага)*. А на чыю дапамогу спадзяюцца пералічаныя вамі групоўкі, граф?

**Панятоўскі.** Патоцкія і Радзівілы — на Францыю і Прусію, Браніцкі — на Францыю і Аўстрыю, Чартарыйскія і Масальскія, як вам вядома, — на Расію.

**Кацярына II.** Гэта сапраўды нам вядома. Кіраўнікі вялікакняскай групоўкі ўжо даўно звярнуліся да мяне з лістом, у якім паведамляюць, што не жадалі б ніякай другой дапамогі і апоры, акрамя войска нашай імператарскай вялікасці... І войска будзе. Корпус у 30 тысяч вояроў, грошы — таксама, каля мільёна рублёў...

**Остарман.** Ваша вялікасць...

**Кацярына II.** *(перапыняе)*. Кароль і вялікі князь Рэчы Паспалітай двух народаў таксама будзе...

**Остарман.** З дынастыі Пястаў, як і раней меркавалася?

**Кацярына II.** У стольніку літоўскім графе Станіславе Аўгусце Панятоўскім мы знаходзім пераважна ўсім другім знатным палякам, якасці нам пажаданыя і для таго цвёрда жадаем яго ўзвесці на пасад польскі. *(Глядзіць на Панятоўскага, той з удзячнасцю схіляе галаву, усталёўваецца паўза.)* Віншаваць слаўнага графа пакуль не будзем, каб, не дай Бог, не сурочыць. Лепш адпусцім яго, каб даць магчымасць у цішы і адзіноце сабрацца з думкамі і нам даць або не даць сваю згоду. Мы ж не абы куды, а на Каралеўства і Княства садзім... *(Панятоўскаму.)* А я з маімі набліжанымі аддамся меркаванням пра абставіны, паколькі абставіны і меркаванні, як я ўжо гаварыла, — гэта дзве з трох складовых палітыкі. Да хуткай сустрэчы, граф Станіслаў Аўгуст.

*Панятоўскі ўстае з-за стала, раскланьваецца і выходзіць.*

Панове, мы ўсе чакалі перамен на польскім пасадзе і зараз павінны найлепшым чынам выкарыстаць гэтую акалічнасць для Расіі яшчэ да абрання караля і вялікага князя. Польска-ліцвінскі пірог гатовы да таго, каб падзяліць яго, сябе не пакрыўдзіўшы. Як старасць караля, так і яго хваравіты стан вялікую падавалі нам прычыну заўчасна прыняць належныя меры, каб у выпадку канчыны яго вялікасці ўзведзены быў на польскі пасад такі кароль, ад якога дзяржаўныя нашы інтарэсы не толькі б ніякіх страт не пацярпелі, але і значны прырост і прыбытак мець маглі б. У такі час мы нібыта для ўласнай карысці Рэчы Паспалітай жадаем, каб каралём выбраны быў уласны іх патрыёт, пра адданасць якога нашай імперыі мы добра ведаем, і для зацвярджэння якога на каралеўскім і вялікакняскім пасадзе выкарыстаем усе ад Бога дараваныя нам сілы і, што, наогул, рэспубліка польская сама прызнаць павінна, які істотны інтарэс і ўдзел маем мы ў выбранні караля польскага, і для таго не наклікала б на галаву бедствы, якія неадкладна наваляцца, калі рэкамендацыя наша з належнай павагай да нас прынята не будзе.

Да смерці караля ўсякую моцную меру мы лічылі не мэтазгоднай, каб не выклікаць абурэнне ў краінах Еўропы, але 30 тысяч войска я трымала на мяжы з Польшчай і 50 тысяч мела на гатове. Пры выбары караля яны будуць ужыты і па першаму ўказу ўступяць у Каралеўства, не кажучы ўжо пра Княства.

У гэтай сувязі і прымаючы пад увагу старасць пасла нашага ў Варшаве Кейзерлінга і яго частыя хваравітыя прыпадкі, лічым неабходным адправіць у Варшаву паўнамоцнага міністра шаноўнага генерал-маёра князя Рапніна, які мае досвед працы з прускім дваром.

*Рапнін схіляе галаву.*

Мы павінны прылашчыць, як караля прускага, так і імператрыцу аўстрыйскую, каб яны носа свайго ў расійска-польскія дачыненні не сунулі.

Трэба быць гатовымі і да таго, што адпор давядзецца даваць і Францыі, і Англіі, і Швецыі з Даніяй, а, мабыць, і Турцыі. *(Глядзіць на Рапніна.)* Графу Кейзерлінгу наказаць, чаго б гэта ні каштавала, а прымаса Польшчы зрабіў бы нам адданым, і калі менш нельга, то да 100 тысяч рублёў яму даць можна.

**Остарман.** Перад такімі грашыма сам папа Рымскі не ўстаяў бы...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Колькі слоў аб гульні ў "Казла" і паходжанні яе назвы*

У апошні час з'явілася некалькі публікацый, у якіх даецца апісанне шматлікіх беларускіх народных гульняў забаў, ігрышчаў, сярод іх варта згадаць кнігу "Гульні, забавы і ігрышчы" (Мн., 1996), складальнікам якой з'яўляецца А. Лозка (Серыя БНТ), і артыкул М. Котава "Народныя гульні і забавы", надрукаваны на старонках "Наша слова" за мінулы год (№№ 38-44). Апісанні гульняў і забаў нашых продкаў можна сустрэць і ў працах іншых беларускіх фальклярыстаў. Напрыклад, нас вельмі зацікавіла гульня у "Казла, змешчаная ў публікацыях шэрагу аўтараў у прыватнасці, даследчыка традыцыйнай культуры М. Козенкі, тым больш, што яна адбывалася на праваслаўныя Каляды.

Мы праявілі цікавасць да гэтай рэдкай гульні не толькі таму, якім жа чынам яна адбываецца, але і прычыны ўзнікнення такой назвы.

На Беларусі (асабліва на Ўсходнім Палессі) ў мінулым значнае месца адводзілася гульні-паказу "Каза" ў старажытным калядным абрадзе. Абрад гэты называўся яшчэ "Ваджэнне казы", "Хадзіць з казой". "Ваджэнне казы" з'яўляецца важным элементам калядавання. На нашу думку, можна такім чынам растлумачыць, чаму гэтая гульня атрымала такую назву.

Хутчэй за ўсё, узнікнене такога найменне гульні можна звязаць з уміласціўленнем нашымі продкамі духу нівы (поля). Мы тут выкажам меркаванне, што ў мінулым не толькі на Чачэршчыне, але, верагодна і ў некаторых суседніх з ёй раёнах была распаўсюджана гульня ў "Казла". Апошняя быццам бы па сваім змесце і кампазіцыйным плане амаль нічога не мае супольнага з гульнёй паказам "Каза". Каза сімвалізавала сабой урадлівасць, багацце, плоднасць, дастатак, нездарма яна пакрыта поўсцю. Аб магічным значэнні абраду ў даўнія часы сведчыць уяўленне пра дух нівы (поля) ў выглядзе казла. Таму нясцятыя сцябліны называлі "барадой казла" (па гэтай прычыне паходзіць і назва абраду). У народзе верылі, што гэтыя духі жылі ў полі і давалі жыццё сцяблінам, напаўнялі каласы зернем. Пасля жніва яны быццам бы заставаліся зімаваць у нясцятых каласках Звычайна імкнуліся задобрыць духі нівы (поля). Для чаго выконвалі абрад "завівання бароды", які спраўлялі ў канцы жніва.

Можна выказаць і другое меркаванне, што гэтая гульня магла атрымаць такую назву яшчэ і ў сувязі з шанаваннем у нашых прашчураў бога Воласа (Велеса). Пашырана думка, што па сваёй значнасці ў пантэоне славянскіх багоў Велес займаў другое месца пасля Перуна. Бог Велес з'явіўся ў славян у сівой старажытнасці. У тыя часы ён апякаваўся паляўнічымі і абараняў іх. Акрамя таго Велес лічыўся сімвалам духу загінуўшай або памерлай жывёлы. Імя бога – Волас (Велес) – мае праславянскі корань ***vel*** -, які калісьці меў значэнне ***многа.*** Нашы прашчуры верылі, душа чалавека ўвасаблялася ў кветкі, птушкі, жывёлу, раку, а цела застаецца ў зямлі.

Дык чаму такім папулярным быў Велес у славян? Рэч у тым, у славянскіх плямён з даўніх часоў жывёла з'ўлялася галоўным багаццем племені або радзімы. А таму не дзіўна, што гэтага бога нашы продкі вельмі часта называлі таксама богам, які даруе багацце.

Славяне святкавалі Велеса з 20 па 25 сакавіка, у масляны тыдзень. Акрамя таго, Велеса шанавалі з 25 снежня па 6 студзеня. Каб уміласцівіць бога жывёлы, людзі апраналі звярыныя шкуры, надзявалі маскі з выявай свойскіх (у тым ліку галавы казла, казы) і дзікіх жывёл.

Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ў знак пакланення богу Велесу сяляне часта пакідалі на ўбраным полі каласы – "Велесу на бародку". Такім чынам, старажытныя славяне верылі ў тое, што памерлыя таксама дапамагаюць вырасціць і атрымаць добры ўраджай. А бог жывёлы ў хуткім часе аказаўся звязаным з культам памерлых продкаў, плоднасцю і атрыманнем багатага ўраджаю. Гэта ж зусім не выпадкова, мяркуючы па крыніцах, якія захаваліся, славяне паэтычна называлі кветкі, травы, дрэвы "валасамі зямлі".

Дык што сабой уяўляе гульня у "Казла", якая зусім нядаўна была вельмі папулярнай у народзе на Чачэршчыне. У гульні ўдзельнічалі звычайна дзве ці больш жанчын, прычым старэйшага ўзросту. Яны рухаліся па ходу сонца. Апошняя абхапіўшы першую за талію спявала:

***Вазьму я казла ды за рожкі,***
***Павяду я казла па дарожкі,***
***Ды стану я казла біці, караці,***
***Ды пачну ў казла праўды пытаці...***

Потым мяняліся месцамі: тая, што была першай, станавілася ззаду той, што была апошняй, і ўсё паўтаралася па-новаму.

Такім чынам, імітаваліся рухі "казла" (казы). Змена ракурсаў пры паваротах сімвалізавала змену пораў года. Трэба заўважыць, што падобныя абрадавыя гульні выконваліся яшчэ і ля жніўнага поля. Так, у в. Бяляеўка Чачэрскага раёна дасюль пакланяюцца жніўнаму казлу. А гэтыя і іншыя прыклады намякаюць на тое, што ў мінулым дух нівы (поля) ўміласціўлялі, задобрывалі яго, для чаго і выконвалі абрад "Завіванне барады". Фактычна "Завіванне барады" стала пачаткам гульні ў "Казла" Можна яшчэ ў пэўнай ступені дапусціць меркаванне, што гэтая гульня пачала так называцца ў сувязі з пакланеннем Богу Велесу - Богу жывёлы. Такім чынам, калядными гульнямі закладаюцца, заручаюцца добры ўраджай, спорнае жніво, зямная ўвадлівасць.

***Анатоль Літвіновіч.***

# Выстава ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча




Закончыўся юбілейны год 450-годдзя Рэфармацыі на Беларусі. У 2003 гозе было праведзена шмат акцый асветніцкага, навуковага, выдавецкага, духоўнага характару, якія ахапілі многія гарады і раёны Беларусі. У іх удзельнічалі не толькі духоўныя асобы пратэстанцкіх цэркваў, але і шмат прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, музыкі. Юбілей Рэфармацыі ў Беларусі і цесна звязанага з ёю залатога веку беларускай культуры, паводле выказвання Максіма Багдановіча, стаўся сапраўднай падзеяй у культурным жыцці Беларусі. Яго адзначалі прадстаўнікі ўсіх канфесій, бо значэнне Рэфармацыі XУI ст. у гісторыі нашай Бацькаўшчыны цяжка пераацаніць.

23 снежня 2003 г. у літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы мастакоў суполкі "Пагоня", прысвечанае юбілейнай даце. Дарэчы, у верасні ў гэтым музеі ладзіла выставу дзіцячага малюнку Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" з такой жа тэматыкай.

На адкрыцці выставы выступілі старшыня суполкі "Пагоня" Мікола Купава, старшыня аргкамітэту па правядзенні юбілейнага года Анатоль Грыцкевіч, вядомы беларускі музыкант і празбітар Рэфармацкай царквы Аляксей Фралоў. Дарэчы, музычнае трыё выканвала творы XУI-XУIII ст. ст., заспяваныя на традыцыях пратэстанцкага хaралу.

На выставе прадстаўлены карціны і малюнкі знаных мастакоў, у тым ліку Уладзіміра Стальмашонка, Міколы Купавы, Віктара Сташчанюка.

Сярод гасцей выставы быў былы міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка.

Выстава будзе працаваць на працягу месяца.

***Наш кар.***

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 2.Бедняга. 6.Насекомое. 7.Ручка (для ліставання). 9.Флаг. 12.Замок (будынак). 15.Избежал. 16.Угол. 17.Опавшие плоды. 18. Строй (грамад.). 19.След от колёс. 20.Кроет (крышу). 21.Минск. 24.Никак. 26.Сваи. 28.Авто. 30.Драница. 31.Звучал. 32.Люк. 33.Цель. 34.Укроп. 36.Вижу. 38.Льдина (на рацэ). 41.Взял. 43.Движение. 45.Мешок. 46.Мечты. 47.Шип на подкове. 48.Клик. 49.Некоторый. 52.Лыжник. 56.Воротник. 57.Конюшня. 58. Утка.

**Па вертыкалях:** 1.Ударять (чым-н.). 2.Купол. 3.Крыша. 4.Наказание. 5.Кофе. 6.Солдат. 8.Кроме. 9.Погреб. 10.Чудо. 11.Играет (на муз. інстр.) 12.Угас. 13.Миф. 14.Корма (вадаплава). 20.Кузов. 21.Маяк. 22.Корыто (для мыцця бялізны). 23.Галка. 25.Говорил. 27.Пашет. 29.Фон. 33.Стена (з камення, цэглы). 35.Пузырь. 37. Зад (жывёлы, чалавека). 39.Рога. 40.Звуки. 42.Съедобные. 44.Пусть. 45.Сила, крепость. 50.Овин. 51.Замеск. 53.Черта. 54.Аир (народн. назоў). 55.Вещь.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 01. 2004 г. Замова № 20.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3400 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 300 руб. (у Менску - 315 руб.)